ББК 67.99(4 Беи)0
Б 27
УДК 342.228(476)

Пераклад на беларускую мову *А. Н. НАЙДОВІЧА*

Рэцэнзент *В. Л. НАСЕВІЧ*,
начальнік аддзела дзяржаўнай і геральдычнай службы
Камітэта па архівах і справаводству

**Басаў А. Н., Куркоў І. М.**
Б27 Флагі Беларусі ўчора і сёння/Пер. А. Н. Найдовіч.— Мн.: Полымя, 1994.— 34 с.: іл.

ISBN 5-345-00730-6.

У кнізе ў папулярнай форме расказваецца аб асновах вексілалогіі — навукі аб флагах, аб гісторыі з'яўлення флагаў у розных краінах. Але асноўная ўвага ўдзелена ўзнікненню флагаў на нашай Бацькаўшчыне — ад сімвалаў полацкага князя Ізяслава, штандартаў вялікіх князёў літоўскіх да адраджэння бела-чырвона-белага палотнішча ў якасці дзяржаўнага сімвала Рэспублікі Беларусь.

Б $\frac{3420228000—038}{М\ 306(03)—94}$ 1—94 **ББК 67.99(4 Беи)0**

ISBN 5-345-00730-6

## ДА ЧЫТАЧА

Гэта кніга аб флагах. Ні ў быўшым СССР, ні тым больш у Беларусі гэта тэма практычна не асвятлялася, у той час як за рубяжом выдадзены энцыклапедыі флагаў. Адсутнасць літаратуры па дадзенай тэме прывяло да таго, што ў дыскусіі аб флагах, якая праходзіла нядаўна ў рэспубліцы, была праяўлена некампетэнтнасць аб рэчы спрэчкі. Так, гісторыя флагаў была звязана з геральдыкай, што з'яўляецца памылковым. Навука аб флагах — вексілалогія, хаця і мае агульныя карані з геральдыкай, даўно жыве па сваіх законах. У спрэчцы гісторыя дзяржаўных флагаў звязвалася з рыцарскімі сцягамі і сімваламі, у той час як флагі, у адрозненне ад сцягоў, абавязаны сваім з'яўленнем не рыцарству, а мараплаванню.

Мэта кнігі пазнаёміць беларускіх чытачоў з асновамі вексілалогіі, з гісторыяй узнікнення флагаў, з флагамі нашай дзяржавы.

*Глава 1*

# З ГІСТОРЫІ ФЛАГАЎ

## *ШТО ТАКОЕ ФЛАГ*

Нашаму чытачу, які выхаваны на сучасных дэтэктывах, добра вядомы выраз, які выкарыстоўваецца ў крымінальным асяроддзі, "стаяць на шухеры". Але мала хто ведае, што шухерам са старажытных часоў называецца сцяг мангольскіх рэлігійных лідэраў — багдагегенаў. Яшчэ зусім нядаўна шухер з'яўляўся штандартам Манголіі. Таму дадзены выраз у прамым сэнсе гэтага слова азначае "вартаваць сцяг".

А што азначаюць колеры французскага "трыкалора"? І адкуль узяўся на дзяржаўным флагу Вялікабрытаніі такі строгі, складаны і прыгожы ўзор? На гэтыя і іншыя пытанні чытач знойдзе адказ у спецыяльнай гістарычнай дысцыпліне — вексілалогіі. Тэрмін вексілалогія ўзнік ад лацінскага слова "вексілум" — вертыкальны шост з кавалкам тканіны, якая была падвешана да гарызантальнай перакладзіны ў выглядзе і дагэтуль прымяняемай (у асноўным пры богаслужэнні) харугвы (мал. 1). Ён быў уведзены ў 105 г. да н. э. консулам Мараем для рымскіх кагорт. Археолагам пашанцавала знайсці вексілум у пахаванні рымскага военачальніка — на яго аднакаляровым палотнішчы быў змешчаны лік багіні.

Але і да вексілума выкарыстоўвалася нешта накшталт сцяга. Гэта былі шасты з умацаванымі на іх сімваламі — зоркамі, драконамі, стужкамі і г. д. Так, сцяг рымскіх легіёнаў — сігна — нагадваў шост, на вяршыне якога быў умацаваны аднагаловы з апушчанымі крыламі "рымскі" арол або іншы сімвал (мал. 2). Ніжэй на шасце былі падвешаны круглыя бляхі (медалі) з рэльефам — фалеры, якія даваліся легіёну за адзнаку ў баі. Падобныя сцягі выкарыстоўваліся яшчэ зусім нядаўна. Да іх можна аднесці ўпрыгожаныя конскімі хвастамі бунчукі (мал. 3), якія ў XVIII стагоддзі расійскія палкаводцы ў дастатку дастаўлялі ў якасці трафеяў у імперскую сталіцу — Санкт-Пецярбург. Іх можна сустрэць і сёння над урачыста маршыруючымі ваеннымі аркестрамі.

Старажытныя крыніцы паведамляюць, што флагі існавалі яшчэ ў старажытных Індыі і Кітаі. У першыя стагоддзі нашай эры флагі пачалі прымяняць на




*Мал. 1. Вексілум*

*Мал. 2. Сігна — сцяг рымскага легіёна*

караблях. Адна з хронік паведамляе, што на флагах гандлёвых караблёў готаў малявалася ягнё, ваенных — дракон. На суднах вікінгаў "флагі" былі выкаваны з бронзы і ўяўлялі сабой ажурны малюнак, у які ўпляталіся відарысы свяшчэннага гругана бога Адзіна, дракона або іншай міфічнай істоты. Аднак сапраўды шырокае развіццё сцягаў і флагаў пачалося з узнікненнем рыцарства, пасля з'яўлення першых законаў геральдыкі, якая аказала значны ўплыў на малюнак флагаў. Таму раней чым



Мал. 3. Бунчук украінскага гетмана




Мал. 4. Кармавы флаг караблёў пагранічных часцей Украіны:

1 — першая чвэрць — кантон; 2 — другая чвэрць; 3 — трэцяя чвэрць; 4 — чацвёртая чвэрць; 5 — флагшток; 6 — шкаторына; 7 — фал; 8 — вось флага

працягваць свой расказ аб флагах, для аблягчэння разумення тэксту чытачамі пазнаёмім іх з асноўнай тэрміналогіяй, якая прынята ў вексілалогіі, і тым, якія сімвалы вексілолагі ўключаюць у сферу сваіх навуковых інтарэсаў.

Такім чынам, любы флаг мае зусім пэўную (як і герб) кананічную пабудову, якая выпрацавалася на працягу многіх стагоддзяў.

Палотнішча любога флага павінна мець просты, добра чытаемы малюнак. Сімвалічна яно дзеліцца на чатыры часткі: першая і другая размешчаны ўверсе, трэцяя і чацвёртая — унізе (мал. 4). Прычым першая і трэцяя знаходзяцца ля дрэўка. Самая ганаровая чвэрць — першая. Калі ў гэтай чвэрці змешчан малюнак, які адрозніваецца ад малюнка флага (гэта можа быць і проста другі колер), то яна носіць назву КРЫЖ або радзей — КАНТОН. У працах аб флагах, якія выдадзены на рускай мове, заўсёды прымяняецца першы тэрмін, але так як слова "крыж" у беларускай мове мае іншае, зусім пэўнае значэнне, то мы, каб пазбегнуць блытаніны, будзем карыстацца другім тэрмінам. Кантон не абавязкова павінен займаць роўна чвэрць палотнішча — ён можа быць большы або меншы чвэрці, можа быць прамавугольным або квадратным, але заўсёды размешчаны ў верхнім левым вугле флага (па прынятаму ў вексілалогіі правілу флаг заўсёды робіцца так, каб дрэўкая частка знаходзілася злева). Звычайна ў першай чвэрці флага (але часта і ў цэнтры) размяшчаюць розныя сімвалы. Так, на вядомым усім нам флагу СССР у гэтым месцы знаходзіліся залатыя серп і молат і чырвоная зорка — сімвалы Саветаў рабочых (молат), сялянскіх (серп) і чырвонаармейскіх ("марсава" зорка) дэпутатаў. Размяшчэнне на флагу дыктуецца не законамі геральдыкі, а мэтазгоднасцю, сімволікай і эстэтыкай. Палотнішча з выразам носіць назву ГВІДОН, а трохвугольнікі называюцца КАСІЦАМІ. Флаг звычайна мацуецца да ФАЛУ сваёй ШКАТОРЫНАЙ (бок палотнішча, узмоцнены больш моцным матэрыялам) або прыбіваецца да ДРЭЎКА. Ён можа вывешвацца як гарызантальна, так і вертыкальна, што звычайна агаворваецца ў заканадаўчых актах аб флагу. Як правіла, флаг мае аднолькавы відарыс з абодвух бакоў палотнішча. Па сваму назначэнню флагі могуць быць дзяржаўнымі — афіцыяльны сімвал дзяржавы, і нацыянальнымі — сімвал нацыі. Часта яны адрозніваюцца толькі дэталямі. Так, нацыянальны флаг Аўстрыі адрозніваецца ад дзяржаўнага толькі адсутнасцю герба рэспублікі. Побач з дзяржаўным флагам асноўнымі сімваламі краіны з'яўляюцца таксама флагі гандлёвага і ваенна-марскога флатоў. Флагі ваенна-марскога флоту ў сваю чаргу дзеляцца на кармавыя, якія выконваюць па сутнасці функцыі сцяга карабля, і флагі, якія вывешваюцца на насавым флагштоку (гюйсштоку) — ГЮЙСЫ. Гюйсы ўпершыню сталі прымяняць у канцы XVI стагоддзя галандскія гёзы (гёз па-галандскі жабрак, у рускай транскрыпцыі "гюйс"). Першы гюйс быў быццам сшыты з асобных абрэзкаў (мал. 5). З XIX стагоддзя гэты флаг падымаецца на караблях толькі ў час іх стаянкі ў портах. Гюйс часам з'яўляецца флагам, які адрознівае розныя часткі флота. Такое назначэнне ён выконваў у 1940—1944 гадах на караблях ВМС "Свабоднай Францыі" (мал. 6). Уважлівыя чытачы пэўна заўважылі сходнасць крыжоў на гюйсе ВМС "Свабоднай Францыі" і шчыце конніка Дзяржаўнага герба Рэспублікі Беларусь. Справа ў тым, што стваральнікі нашага герба выкарысталі відарыс "пагоні", змешчаны на надмагільным помніку польскага караля Ягайлы, дзе на шчыце конніка намаляваны не крыж Вітаўта, сучасніка Ягайлы,



*Мал. 5. Гюйс ВМФ Нідэрландаў*



*Мал. 6. Гюйс "Свабодная Францыя" 1940—1944 гады — ганаровы гюйс ВМФ Францыі*

а "патрыяршы" крыж з ушыранымі канцамі — родавая эмблема генерала Дэ Голя.

Гюйс з'яўляецца таксама флагам марскіх крэпасцей. Асобы, якія займаюць камандныя пасады ў ВМС, маюць свае спецыяльныя флагі. Акрамя ўпамянутых, існуюць флагі арміі, ВПС, грамадзянскай авіяцыі, службовых асоб і суднаў розных дзяржаўных службаў (мытнай, пачтовай і інш.), флагі рэгіёнаў краіны (аўтаномных рэспублік, штатаў, раёнаў і г. д.), гарадоў, спартыўных і іншых таварыстваў, партый, рухаў, суднаходных і авіяцыйных кампаній, сігнальныя і г. д. Павага да флага — міжнародная норма. У час сустрэчы высокапастаўленага госця флаг яго краіны развіваецца побач з флагам гаспадара. У гонар флага праводзіцца артылерыйскі салют. Публічная ж знявага яго ў многіх краінах караецца. Наогул флаг — сімвал надзвычай разнастайны і інфарматыўны.

Аднак вексілалогія не замыкаецца на вывучэнні флагаў. Прадметам яе інтарэсаў з'яўляюцца сцягі, харугвы, вымпелы, флюгеры, значкі, занавесі, транспаранты, арыфламы.

**СЦЯГ** (мал. 7) — гэта старажытнейшы сімвал, які асабліва бурна развіваўся ў рамантычныя часы рыцарства. Сцяг, у адрозненне ад флага, не мае такога шырокага назначэння, заўсёды вырабляецца ў адным экземпляры, багата ўпрыгожваецца, мае складаны малюнак. Ш'ецца з дарагой матэрыі. Відарысы на ім вышываюцца або малююцца фарбамі і з'яўляюцца сімвалам дзяржаўнага органа, воінскай часці, прыватнай асобы. На сцягу ўмацоўваюцца ўзнагароды і ў гэтым выпадку да яго наверша прывязваюцца ордэнскія ленты. Сцяг параўнаўча нядаўна стаў рэліквіяй — у рускай арміі такім яго зрабіў у 1796 годзе імператар Павел І. Да гэтага ён быў толькі часткай рэчавага забеспячэння і з'яўляўся знакам, які абазначаў месцазнаходжанне дывізіі, палка або батальёна на полі боя. ШТАНДАРТ з'яўляецца разнавіднасцю сцяга і мае два прызначэнні: першае — флаг або сцяг главы дзяржавы, другое — невялікі сцяг кавалерыйскай часці. Штандарт главы дзяржавы раней дзяліўся на дварцовы і марскі, сёння розніцы ў малюнку звычайна няма. ПАНІР — дзяржаўны сцяг, які з'яўляўся ў Расіі адной з царскіх рэгалій і выносіўся пры каранацыі або пахаванні самадзержца.




*Мал. 7. Сцяг нямецкага студэнцкага Саюза "Буршэншафт" 1816 года:*

*1 — наверша; 2 — кутас; 3 — дрэўка; 4 — махра*

**ХАРУГВА** (мал. 8) — гэта сцяг, палотнішча якога ўмацоўваецца на папярэчнай рэйцы, прымацаванай да дрэўка шнурамі, і звісае вертыкальна. Як правіла, мае касіцы. Сёння скарыстоўваецца ў асноўным у царкоўных абрадах. Урэшце першапачаткова яна была пераможным знакам або трафеем царквы, які азначае перамогу над светам. Прывычная форма харугвы з'явілася на захадзе Еўропы ў VI стагоддзі, а на яе ўсходзе — у IX стагоддзі. У пазнейшы час харугвы прымянялі больш шырока: яна была распаўсюджана ў сярэдневяковых гарадах, часам сустракалася сярод ваенных сімвалаў, шырока прымянялася ў час рэвалюцыйных падзей 1917—1918 гадоў у Расіі. У летапісах часта харугвамі памылкова называліся сцягі.



*Мал. 8. Харугва Кавалергардскага палка Расіі 1800 года*

**ВЫМПЕЛ** (мал. 9) прымяняецца галоўным чынам на марскіх суднах, прычым у апошні час у асноўным на ваенных. У час паруснага флоту ён памагаў маракам вызначаць напрамак і сілу ветра і дасягаў даўжыні да сарака метраў. Сёння ён




*Мал. 9. Вымпелы ВМФ:*
*а — Расіі; б — Германіі; в — Кітайскай імперыі; г — брэйд-вымпел камандора Велікабрытаніі: 1 — галоўка; 2 — стужка; 3 — касіца*

застаецца на караблях як традыцыя. Вымпел заўсёды падымаецца на мачце судна. Мае прамое, часцей канічнае палотнішча, часам з дзвюма касіцамі. Вымпел можа мацавацца на фале, як флаг, або на рэйцы, як харугва. Існуюць спецыяльныя вымпелы для камандных асоб — БРЭЙД-ВЫМПЕЛЫ. Брэйд-вымпел адрозніваецца ад вымпела больш кароткім і больш шырокім палотнішчам. Акрамя таго, раней існаваў спецыяльны галерны вымпел КАРНЕТ, які часам проста надзяваўся на вяршыню мачты галеры.

**ФЛЮГЕР** (мал. 10) — флажок, які ўмацоўваўся на канцы пікі кавалерыста. Служыў для абазначэння прыналежнасці асабовага састава да дадзенага падраздзялення. Такую функцыю выконваў і белы трохвугольны вымпел з прамым чырвоным крыжам — сімвалам Св. Георга, заступніка еўрапейскіх рыцараў. Яго мы бачым на канцах коп'яў атрада рыцараў, намаляванага на карціне, якая адлюстроўвае падзеі Аршанскай бітвы 1514 года беларуска-літоўскіх атрадаў з рускімі войскамі. Нярэдка яго няправільна трактуюць як правобраз беларускага флага. Флюгер мае на піцы кожны кавалерыст.




*Мал. 10. Флюгеры:*
*а — другой сотні Туркменскага коннага дывізіёна Расіі: б — мараканскай каралеўскай гвардыі; в — Літоўскага ўланскага палка Расіі 1812 года; г — польскага ўланскага палка ў г. Броды*

**ЗНАЧОК** — невялікага размеру флаг, які служыць для абазначэння месцазнаходжання камандзіра атрада або падраздзялення. Мог умацоўвацца на штыку вінтоўкі лінейнага салдата, крайняга ў шарэнзе.

**ЗАНАВЕСЬ** — упрыгожанне сігнальных музыкальных інструментаў — труб, літаўраў, барабанаў.

**ТРАНСПАРАНТ** — від сцяга з палотнішчам, якое ўмацоўваецца паміж дрэўкамі. Цяпер сустракаецца вельмі рэдка.

**АРЫФЛАМА** — вялікі флаг, які падвешваецца на вяроўцы ўпоперак вуліцы паміж будынкамі. Характэрна для старых сярэдневяковых еўрапейскіх гарадоў з вузкімі вуліцамі. Такую ж назву насіў у сярэдневяковай Францыі штандарт караля.

Тут пералічаны асноўныя прадметы вывучэння вексілалогіі і тэрміны. Пазнаёміўшы з імі чытача, мы працягваем свой расказ аб гісторыі флагаў. Такім чынам, на рубяжы другога тысячагоддзя наступіла эпоха рыцарства. Закаваныя ў метал рыцары не маглі пазнаць адзін аднаго візуальна, паколькі твары былі схаваны пад стальнымі забраламі шлемаў. Патрэбны былі знакі адрознення. Такімі знакамі, індывідуальнымі для кожнага рыцара (добра, што іх было няшмат), і з'явіліся сімвалы, якія змяшчаліся на шчыце і на адзенні. Спачатку рытуальныя, а затым утылітарныя, якія служылі не для пакланення і застрашэння, а для абазначэння асобы. Знявага сімвала з'яўлялася знявагай яго носьбіта. Утвораныя пасля першага крыжовага паходу, рыцарскія манаскія ордэны мелі акрамя асабістых агульныя сімвалы для ўсяго ордэна: белы крыж на чырвоным полі ў іаянітаў, чорны крыж на белым полі ў тэўтонцаў, чырвоны крыж і меч у мечаносцаў і г. д., якія пераносіліся на флюгеры коп'яў воінаў ордэна, а таксама і на ордэнскія сцягі (мал. 11). Сігналам да пачатку боя было падыманне сцяга, а да сканчэння — яго зварочванне і апусканне. Статут ордэна Тампліераў патрабаваў ад рыцара не пакідаць поле боя нават у выпадку паражэння, пакуль над ім развіваецца сцяг ордэна. І толькі пасля таго, калі ён упаў, "рыцару можна шукаць выратавання там, дзе бог паможа". Гэта правіла дзейнічала не толькі ў ваенна-манаскіх ордэнах, але і ў мірскім рыцарскім войску. Свецкія рыцары аб'ядноўваліся ў атрады — "знамена", з якіх і складалася рыцарскае войска. Кіраўнік "знамени" меў свой штандарт, пад якім выступаў яго атрад. Такі рыцар называўся рыцарам-банерэтам, гэта значыць які меў асабісты сцяг-банер — прамавугольнае палотнішча з гербам, сімвалам або дэвізам гаспадара (мал. 12). У простых рыцараў флюгеры на коп'ях мелі касіцы (мал. 13). Часта сцяг мацаваўся асобным чынам — перпендыкулярна да дрэўка далучалася рэйка (у выглядзе буквы Г), якая фіксавала верхнюю частку сцяга. Гэта быў распаўсюджаны ў той час канструктыўны прыём, які дазваляў і пры поўнай адсутнасці ветру добра адрозніваць малюнак, што было неабходна пры выкананні сцягам функцыі сігнала. Не трэба падобны сцяг блытаць з харугвам, дзе палотнішча злучалася з дрэўкам шнурамі і было фактычна незалежна ад яго.

Кароль, які ўзначальваў звычайна войскі, таксама меў свой сцяг, які ўказваў толькі на месца галоўнакамандуючага, а не з'яўляўся агульным сімвалам войска. І гэта нядзіўна. Кароль быў толькі першым сярод роўных. Ніхто з багацейшых феадалаў у сітуацыі, калі ён адчуваў сябе падчас мацней за кіраўніка дзяржавы, як, напрыклад, герцаг Бургундскі ў Францыі, ніколі не дазволіў бы штандарту караля ўзвысіцца над сваім сцягам. Гэта характэрна для ўсіх еўрапейскіх дзяржаў таго перыяду, у тым ліку і для беларуска-літоўскай: улада караля дзейнічала толькі там, дзе заканчвалася ўлада феадала. Яркай ілюстрацыяй да сказанага з'яўляюцца падзеі трэцяга крыжовага паходу, калі судны імператара Свяшчэннай Рымскай імперыі Фрыдрых II (сына загінуўшага ў пачатку паходу Фрыдрыха Барбаросы), якія плавалі ў "Святую зямлю", падымалі простае жоўтае палотнішча, хаця на штандарце Фрыдрыха быў змешчаны яшчэ і чорны двухгаловы арол. Імператар разумеў, што падняць імператарскі штандарт яму не дазволяць уладарныя феадалы — фактычныя гаспадары караблёў. Як бачым, штандарт караля зусім не быў дзяржаўным сімвалам, як і наогул было аморфнае само паняцце дзяржавы. Трэба адзначыць, што сцяг як сімвал, які вызначаў месцазнаходжанне дывізіі, палка,



*Мал. 11.*
*Сцяг Тэўтонскага рыцарскага ордэна. XV стагоддзе*



*Мал. 12. Банер камандора г. Данцыга. XV стагоддзе*



*Мал. 13. Флюгер на кап'і рыцара*

батальёна ў баю, з'яўляўся такім аж да сярэдзіны XIX стагоддзя (таму ён быў прадметам рэчавага забеспячэння) — у дыме ж бою пры аднолькавай уніформе палкаводзец толькі па сцягу мог вызначыць на вялікай адлегласці воінскую часць і яе месцазнаходжанне. Наогул трэці крыжовы паход цікавы ў адносінах сімволікі. У пачатковы ж яго перыяд упершыню ў гісторыі палкаводцы армій абгаварылі агульнанацыянальныя сімвалы. У студзені 1189 года на сустрэчы ў г. Жызоры ангельскага і французскага каралёў было вырашана, што французы нашыюць на адзенні чырвоны крыж, англічане — белы (у час Стогадовай вайны яны "памяняюцца" крыжамі), а фламандцы — зялёны. Цікава тое, што да агульнапрынятай формы сцяга народы прыходзілі самастойна на розных кантынентах Зямлі. Так, у Паўднёвай Амерыцы яшчэ да прыхода туды іспанцаў каля трона ўладара інкаў звычайна ўзнімаўся сцяг правіцеля, які быў сатканы з воўны і бавоўны і ўпрыгожаны маляваным гербам дадзенага інкі.

Цікавая каляровая гама палотнішчаў мусульман, якіх заўсёды шмат пражывала ў нашай рэспубліцы. Так званы "Сцяг Прарока", які захоўваецца ў Канстанцінопалі (Стамбуле), меў зялёны колер і лічыўся кожным мусульманінам свяшчэнным, найвышэйшым сімвалам у войнах супраць "няверных". Ісламская легенда па гэтай прычыне гаворыць наступнае. Узначаленыя Прарокам бедуіны вялі вайну за новую веру і ў адным з баёў завагаліся. Тады Мухамед, каб натхніць іх, сарваў з галавы зялёную чалму і кінуўся ўперад, размахваючы ёй, як сцягам. Менавіта з гэтага эпізода ўстанавілася думка, што ўсе сцягі "воінаў Прарока" зялёныя. На самой жа справе нават прарок Мухамед часта выкарыстоўваў белыя і чорныя палотнішчы. Выкарыстоўваліся і іншыя колеры: белыя (мусульманская дынастыя Амейядаў), чорныя (дынастыя Абасідаў), зялёныя (дынастыя Фатымідаў), жоўтыя (дынастыя Айюбідаў), чырвоныя (арабская дынастыя Хашымітаў і турэцкая Асманаў). Менавіта з такіх колераў і складаюцца сёння дзяржаўныя флагі ісламскіх краін Бліжняга Усходу і Паўночнай Афрыкі.

Але як і дзе з'явіліся першыя дзяржаўныя флагі?

Адкажам на гэта пытанне так. Да стварэння ў Еўропе цэнтралізаваных дзяржаў з адзіным моцным цэнтрам улады гаварыць аб якіх-небудзь штандартах як аб сімвалах нацыі наогул не прыходзіцца. Аб'яднанне ж зямель у адзінае цэлае ў большасці краін прыходзілася на XV—XVI стагоддзі. Менавіта ў гэты час расшыраўся гандаль, а разам з ім будаваліся камерцыйныя і ваенныя флаты. З мараплаваннем з'яўляюцца дзяржаўныя флагі, якія не мелі практычна нічога агульнага са штандартамі і сцягамі ўладароў, хоць у іх былі выкарыстаны адны гістарычна складзеныя геральдычныя сімвалы.

У бязбрэжных акіянах і морах планеты сустракаліся адзін з адным дзесяткі караблёў, якія мала чым адрозніваліся па сваёй архітэктуры; яны не дазвалялі маракам устанаўліваць нацыянальную прыналежнасць сустрэтага судна (успомніце прычыны ўзнікнення геральдыкі), што мела немалаважнае значэнне: перадача пошты, звестак, нарэшце небяспека канфлікту. Гэта прывяло да разумення таго, што для караблёў нацыі патрэбен адзіны сімвал, які б лёгка распазнаваўся ўсімі і да таго ж на вялікіх адлегласцях. Таму малюнак на сімвале павінен быў быць простым, выразным і значных памераў. Гэта магчыма было ўвасобіць на вялікім палотнішчы тканіны, якое развівалася ветрам. З'явілася прынцыпова новае палотнішча вексілума — марскі флаг. Ужо ў пачатку XVII стагоддзя караблі асноўных марскіх дзяржаў падымаюць адзіныя флагі. Не дзіва, што ў хуткім часе палотнішча на карабельных флагштоках пачынаюць асацыіравацца не толькі з караблём пэўнай краіны, але з самой нацыяй, яе насяляючай. З канца XVIII стагоддзя карабельныя флагі "перабіраюцца" з мора на сушу і ўжо ніякі "паважаючы сябе" ўрад, ніякі народ, не мысляць сябе без дзяржаўнага флага. Сёння дзяржаўны флаг як самы важны і неабходны сімвал нараджваецца з нараджэннем дзяржавы.

Зыходзячы з вышэйсказанага, можна заключыць, што Беларусь, не меўшая выхаду да мора, аж да XX стагоддзя проста не мела патрэбы ў агульнанацыянальным адзіным флагу.

## З ГІСТОРЫІ ФЛАГАЎ

Каб чытач лепш уяўляў сабе, як і ў якіх умовах фарміраваліся флагі некаторых дзяржаў, трэба коратка расказаць іх гісторыі.

Пачнём з Галандыі, якая цяпер носіць афіцыйную назву Нідэрланды, паколькі менавіта ў гэтай краіне ўпершыню ў гісторыі з'явіўся агульнанацыянальны флаг. А ўсё пачалося з паўстання ў 1581 годзе фламандцаў супраць іспанскага панавання. Барацьба на сушы супраць першакласнай іспанскай арміі не прынесла поспеху фламандскім дваранам, якія патрабавалі большай незалежнасці правінцый ад Іспаніі. Тады на моры ўступілі ў барацьбу "марскія гёзы", паспяхова ўчыняўшыя адважныя напады на іспанскія караблі

і гарнізоны. Гэта выклікала новы пад'ём нацыянальна-вызваленчага руху. Караблі "марскіх гёзаў" не мелі адзінай сімволікі. Палотнішчы былі розных колераў: зялёныя, аранжавыя, жоўтыя, сінія, з рознымі палосамі, крыжамі, кругамі, іншымі геаметрычнымі фігурамі. Частка паласатых флагаў мелі аранжавы, белы, сіні колеры — колеры прынца Вільгельма Аранскага, натхняльніка і намінальнага кіраўніка вызваленчай вайны. Выкарыстанне чырвонай паласы замест аранжавай указвала на тое, што ўладальнік флага не прызнае прынца сваім кіраўніком і знаходзіцца ў адносінах да яго ў апазіцыі. Вызваліўшыся ад іспанскага прыгнечання, правінцыі Паўночнай Фландрыі ўтварылі новую дзяржаву — Галандыю, па назве адной з правінцый. Уладаром яе стаў прынц Аранскі, а яго флаг з аранжавай, белай і сіняй палосамі — у 1599 годзе стаў дзяржаўным флагам. З аслабленнем пасля 1630 года ўплыву прынца Аранскага гандлёвыя караблі пачынаюць часцяком падымаць флаг, дзе аранжавая паласа замяняецца чырвонай. Сапраўднасці дзеля трэба сказаць, што гэта было выклікана часткова і тымі абставінамі, што аранжавая фарба хутка выцвітала і флаг хутка патрабаваў замены, што абыходзілася нятанна, паколькі флагаў на караблях было шмат. Аранжавую паласу афіцыйна замянілі ў 1651 годзе, калі Галандыя стала купецкай рэспублікай (мал. 14). Гэты флаг практычна не мяняўся. Толькі з 1796 па 1806 год, калі існавала Батаўская рэспубліка, на яго чырвонай паласе з'явіўся белы кантон з сімвалічнай выявай Галандыі. У 1810—1813 гадах краіна знаходзілася пад французскім флагам.



*Мал. 14. Дзяржаўны флаг Нідэрландаў*

Аўстрыйскі дзяржаўны флаг прама звязаны з гербам правячай дынастыі. Існуе легенда, што з'яўленне чырвона-бела-чырвонага шчыта ў правячай у Аўстрыі дынастыі Бабенбергаў звязана з тым, што Леапольд II, вярнуўшыся пасля бітвы з язычнікамі, меў адзенне з срэбранай тканіны, моцна запэцканае крывёю. Толькі там, дзе быў шырокі пояс, які падтрымліваў меч, заставалася белая паласа. У сапраўднасці ж пячатка з відарысам рыцара, які трымае шчыт такіх колераў, з'явілася ў дваццатыя гады XIII стагоддзя пры Леапольдзе VI. Габсбургі, якія змянілі Бабенбергаў на аўстрыйскім троне, пакінулі сабе гэты сімвал. З 1436 года, калі Габсбургі занялі трон Свяшчэннай



*Мал. 15. Кармавы флаг ВМФ Аўстра-Венгерскай Імперыі. 1787—1918 гады*

Рымскай імперыі, выкарыстоўвалася імперская сімволіка — чорны двухгаловы арол на жоўтым полі. Адказаўся ад трона "Рымскага кесара" імператар Франц II у 1806 годзе. Але яшчэ папярэднік Франца II Іосіф II даручае свайму канцлеру князю Каўнітцу падрыхтаваць эскіз чырвона-бела-чырвонага флага са шчытом такіх жа колераў пад каронай, які і быў прыняты імператарам 20 сакавіка 1786 года (мал. 15). Выкарыстанне флага было дазволена с 1 студзеня 1787 года і ў хуткім часе яго ўрачыста паднялі на флагштоку флагмана аўстрыйскага ваеннага флоту — караблі "Карнэт", які базіраваўся ў г. Трыесце. І хоць у 1867 годзе ў сувязі з абвяшчэннем дуалістычнай (двуадзінай) дзяржавы Аўстра-Венгрыя дзяржаўны флаг быў некалькі зменены (да яго "прышылі" флаг Венгрыі), кармавы флаг ВМФ заставаўся нязменным аж да канца імперыі (верасень 1918 года). 12 лістапада 1918 года дзяржаўным флагам Аўстрыйскай Рэспублікі было абвешчана чырвона-бела-чырвонае палотнішча, на якім некалькі пазней з'явіўся чорны аднагаловы арол з серпам і молатам у лапах. У перыяд з 1936 па 1938 год яго замяніў чорны двухгаловы арол, але гітлераўскі "аншлюс" паклаў канец аўстрыйскай дзяржаўнасці, якая была адноўлена толькі ў 1955 годзе з рэспубліканскім флагам 1918 года з арлом у якасці дзяржаўнага.

Калі галандцы практычна першымі стварылі дзяржаўны флаг, то дзяржаўны флаг датчан мае самую працяглую "радаслоўную" ў Еўропе. "Даннеброг" — так называлі флаг, які з'явіўся ў 1219 годзе пры наступных абставінах. Дацкія рыцары пад камандаваннем Вальдэмара II Пераможцы, якія высадзіўся на берагах сучаснай Эстоніі, асадзілі крэпасць эстаў Лінданісэ, што знаходзілася недалёка ад таго месца, дзе сёння раскінуў свае кварталы Талін. У час бітвы эстам удалося захапіць каралеўскі сцяг. Датчане прышлі ў замяшанне, але ў крытычны момант з'явілася чырвонае палотнішча з прамым срэбраным крыжам. Гэта натхніла рыцараў і яны перамаглі. З гэтага моманту сцяг стаў выкарыстоўвацца як сімвал караля. Да XVII стагоддзя флаг з гэтым малюнкам становіцца асноўным ваенна-марскім флагам. Палотнішча з касіцамі дазваляецца падымаць толькі баявым караблям з 1696 года, а гандлёвым — без касіц. Менавіта такім, без касіц, ён і стаў у XIX стагоддзі дзяржаўным (мал. 16). "Даннеброг" аказаў рашучы ўплыў на сімволіку Паўночнай Еўропы: флагі



*Мал. 16. Дзяржаўны флаг Даніі*

Нарвегіі і Ісландыі з'яўляюцца вытворнымі ад яго, а шведскі флаг нарадзіўся пад бясспрэчным яго ўплывам. Гэты ўплыў тлумачыцца проста — усе гэтыя краіны ў свой час знаходзіліся ў уніі з Даніяй, з'яўляючыся фактычна яе калоніямі. Першы нарвежскі флаг адрозніваўся ад дацкага толькі наяўнасцю ў першай чвэрці залатога "уцякаючага" льва з сякерай. Толькі ў 1821 годзе на флаг гандлёвых суднаў быў дабаўлены сіні крыж. А першыя шведскія флагі, якія з'явіліся на ваенных караблях у сярэдзіне XVI стагоддзя, адрозніваліся ад флага дацкага ВМФ толькі колерам. Да 1650 года сустракаліся і флагі з трох гарызантальных палос: сіняй, жоўтай і сіняй, а таксама з крыжам і трыма касіцамі. Сённяшні малюнак дзяржаўны флаг Швецыі атрымаў толькі 22 чэрвеня 1906 года. Што тычыцца флага Фінляндыі, то ён створан у традыцыях скандынаўскіх краін.

Гісторыя дзяржаўнага флага Францыі цесна пераплецена з падзеямі Вялікай французскай рэвалюцыі. Да яе Францыя наогул не мела дзяржаўнага флага. Першапачаткова на караблях выкарыстоўваліся каралеўскія колеры — сіні заступніка гандлю св. Марка і чырвоны ваеннага заступніка св. Дэні. З уступленнем на трон Генрыха IV — заснавальніка каралеўскай дынастыі Бурбонаў — каралеўскім колерам стаў белы. Гэтая змена звязана з тым, што, стаўшы нехаця каталікам, правадыр гугенотаў Генрых Наварскі ў душы ім жа і застаўся. А белы колер увасабляў у гугенотаў чысціню іх рэлігіі. У хуткім часе ён стаў сімвалам манархізму ўсяго свету. Калі 14 ліпеня 1789 года парыжане ішлі штурмаваць Бастылію, яны зусім не выступалі як праціўнікі караля — белы колер яшчэ паважаўся, а на многіх сцягах, як і раней, заставаліся каралеўскія сімвалы. І гэта нягледзячы на тое, што на трохвуголках абаронцаў крэпасці былі белыя какарды, а на трохвуголках штурмаваўшых яе — сіне-чырвоныя какарды колераў г. Парыжа. Калі 17 ліпеня 1789 года Людовік XVI прыбыў пасля падзення Бастыліі ў Парыж, у заставы Пасі яго сустрэў новы мэр Парыжа Бальлі. Ён працягнуў каралю ключы ад горада, а затым сіне-чырвоную какарду нацыянальнай гвардыі Парыжа, кажучы пры гэтым: "Ці не будзе ўгодна Вам прыняць адметны знак французаў?" Кароль моўчкі прымацаваў на шляпу нацыянальную какарду, а ў цэнтры яе прыкалоў сваю, белую. І хоць пазней галава караля была аддзелена ад каралеўскага цела, белы колер не быў выкінуты з какарды — ён ужо шырока выкарыстоўваўся французамі. У вядомым нам спалучэнні, але некалькі адрозніваючымся ад сучаснага, флаг прыняў Нацыянальны Сход 24 кастрычніка 1790 года як гюйс караблёў ВМФ. Тут ля дрэўка знаходзілася чырвоная вертыкальная паласа, затым белая і сіняя (мал. 17). Такія палотнішчы былі ўрачыста падняты на ваенных караблях у Брэсце і Тулоне ў пачатку 1791 года. 15 лютага 1794 года член камітэта Грамадскага выратавання Жан Бон Сент Андрэ, у веданні якога знаходзіліся акіянскія эскадры і які незадоўга да гэтага прапанаваў змяшчаць на флагу ля дрэўка не чырвоную, а сінюю паласу, матывуючы гэта тым, што ядобра колер крыві прыбіваць цвікамі, прыказаў караблям акіянскай эскадры падняць у якасці кармавога палотнішча сіне-бела-чырвоны флаг, дзе сіні колер размяшчаўся ў шкаторыны. А праз два дні, 17 лютага 1794 года, ён жа быў абвешчаны дзяржаўным флагам Французскай Рэспублікі (мал. 18). Флаг, які з'яўляўся спалучэннем сімвала караля і сімвала горада, дзе яго пакаралі, быў настолькі папулярны



*Мал. 17. Гюйс ВМФ Французскай Рэспублікі. 1790—1794 гады*



*Мал. 18. Дзяржаўны флаг Францыі*

ў народзе, што на Венскім кангрэсе, вырашыўшым у 1815 годзе лёс Францыі, рускі імператар Аляксандр I прапанаваў (канешне, не бескарысліва) захаваць яго і пры вярнуўшыхся Бурбонах. Прапанову адхілілі. Але ўжо праз 15 гадоў, у жніўні 1830 года, парыжане паднялі на гарадской ратушы свой "трыкалор". Паднялі назаўсёды.

Такія ж колеры — белы, сіні і чырвоны мае і флаг Расіі. Гісторыя яго звязана з гісторыяй першага рускага ваеннага карабля "Арол", пабудаванага ў 1668—1669 гадах у царстваванне Аляксея Міхайлавіча. Да гэтага года ў Расіі наогул не было агульнадзяржаўнага флага. Пабудовай карабля кіравалі галандцы і цар звярнуўся да іх з дапамогай у стварэнні сімвала. Першы камандзір карабля таксама галандзец Давід Бутлер заявіў цару, што звычайна на кармавым флагштоку карабля ВМФ з'яўляецца флаг караля. Такі сімвал неабходна было стварыць і для цара напісалі даведку аб сцягах, дзе акрамя біблейскіх апісалі марскія флагі Англіі, Даніі, Швецыі і Галандыі. Гісторыя не захавала дакладнага малюнка флага "Арла", але мяркуецца, што ён быў падобны да галандскага — з трох гарызантальных палос: белай, сіняй і чырвонай. У цэнтры гэтага палотнішча згодна з указам цара ад 24 красавіка 1669 года павінен быў быць размешчан залаты двухгаловы арол. На карысць такога малюнка гаворыць шэраг абставін. Па-першае, згодна з указам цара ад 9 красавіка 1669 года на выраб флага заказвалася роўная колькасць матэрыі кожнага колеру, чаго не было б у выпадку любога іншага мяркуемага даследчыкамі малюнка. Па-другое, ва ўказе аб размяшчэнні арла на палотнішчы не агаварвалася яго дакладнае месцазнаходжанне, што зноў жа магчыма толькі пры палосным варыянце, але ніяк не пры крыжовым. Па-трэцяе, у архівах Аружэйнай палаты Маскоўскага Крамля захаваліся запісы аб указанні Аляксея Міхайлавіча вырабляць сцягі менавіта такога малюнка для гульняў малодшага сына цара — Пятра Аляксеевіча (першы забаўны полк — Пятроў полк быў створаны яшчэ пры жыцці Аляксея). Па-чацвёртае, менавіта такі флаг быў падняты Пятром I 6 жніўня 1693 года ў Архангельску на 12-пушачнай яхце "Св. Петр" — першы вядомы малюнак рускага марскога флага, які з дзіцячых гадоў Петр лічыў сваім асабістым флагам. З гэтага часу бела-сіне-чырвоны флаг ужо не знікаў з рускай гісторыі. У 1697 годзе ён становіцца кармавым флагам ВМФ Расіі і менавіта на ім упершыню з'яўляецца ў 1699 годзе сіні андрэеўскі крыж — сімвал ваеннага флота Расіі, які быў прывезены Пятром I з Англіі. У 1705 годзе бела-сіне-чырвоны флаг стаў флагам гандлёвага флоту Расіі і заставаўся такім аж да грамадзянскай вайны 1918—1920 гадоў. Дзяржаўным ён стаў у Расійскай Імперыі афіцыйна толькі 7 мая 1883 года, замяніўшы існаваўшы да гэтага чорна-жоўта-белы флаг (да яго дзяржайнага флага ніхто наогул не зацвярджаў). У 1914 годзе на дзяржаўным флагу з'явіўся жоўты квадратны кантон з чорным арлом. Пры часовым урадзе арла знялі і дзяржаўны флаг стаў такім жа, як нацыянальны. З 1918 года гэты флаг шырока выкарыстоўваўся белагвардзейцамі і эмігрантамі, таму ў СССР ён трапіў у разрад "рэакцыйных". У перыяд перабудовы яго зноў пачынаюць выкарыстоўваць дэмакратычныя плыні Расіі, а ў дні путча — 21 жніўня 1991 года на падставе рашэння надзвычайнай сесіі ВС РСФСР бела-сіне-чырвонае палотнішча зноў становіцца дзяржаўным флагам Расіі (мал. 19). Ад ранейшага яго адрозніваюць прапорцыі: адносіны шырыні да даўжыні: царскага было 2 : 3, ізноў зацверджанага 1 : 2. 11 снежня 1993 года згодна з указам Прэзідэнта Расійскай Федэрацыі флагу былі звернуты гістарычныя прапорцыі палотнішча — 2 : 3. Пасля 1701 года замест кармавога флага ВМФ узору 1699 года ўводзяцца тры флагі — белы, сіні і чырвоны з крыжамі ў кантоне. Малюнак вядомы ўсім нашым чытачам Андрэеўскі флаг атрымаў толькі ў 1712 годзе. Ён праіснаваў без змен да 1918 года, хоць белагвардзейскія караблі спусцілі Андрэеўскі флаг з флагштокаў толькі кастрычніцкім вечарам 1924 года ў афрыканскай Бізерце. З 26 ліпеня 1992 года Андрэеўскі флаг разам з ранейшым гюйсам стаў ізноў развівацца над баявымі караблямі Расіі (мал. 20). Такі ж малюнак мае і зацверджаны 21 мая 1993 года кармавы флаг караблёў пагранвойск Расіі, але ў яго светла-зялёнае палотнішча, а крыж абведзен белай палоскай.

А якая ж гісторыя флагаў Вялікабрытаніі, якія аказалі прыкметны ўплыў на сімволіку баявых караблёў Расійскай Імперыі? Першае з'яўленне "Юніон Джэка" адносіцца да пачатку XVII стагоддзя, калі пасля смерці англійскай каралевы Елізаветы I перарвалася дынастыя Цюдораў і на трон узыйшоў сын пакаранай шатландскай каралевы Марыі Сцюарт Якаў I. (Па адной з версій, "Джэк" — фамільярна-памяншальная форма каралеўскага імя Якаў, што перадавала грубавата-насмешлівыя,



*Мал. 19. Дзяржаўны флаг Расіі*



*Мал. 20. Кармавы Андрэеўскі флаг ВМФ Расіі*

не вельмі пачцівыя адносіны маракоў да тоўстага, некалькі нязграбнага караля.) Англія і Шатландыя былі аб'яднаны асабістай уніяй. 12 красавіка 1606 года Якаў аб'явіў адзіны саюзны флаг, які насіў тады назву "флага каралеўскіх колераў". Ён уяўляў сабой спалучэнне двух сімвалаў: сімвала заступніка Англіі св. Георга — белае палотнішча з чырвоным прамым крыжам і сімвала заступніка Шатландыі св. Андрэя — сіняе палотнішча з белым дыяганальным крыжам (абодва флагі выкарыстоўваліся на баявых караблях упамянутых дзяржаў). Чырвоны крыж на белай падкладцы быў накладзены на сіні Андрэеўскі флаг шатландцаў. Гэты флаг было прыказана падымаць спачатку на гротмачце, а з 1634 года ў якасці гюйса — на ваенных караблях краіны. Тым не менш Шатландыя ў той час заставалася ў падначаленым становішчы ў адносінах да Англіі. Так, на ўсіх трох каляровых кармавых флагах ВМС у кантоне знаходзіўся толькі флаг св. Георга, гэта значыць сімвал Англіі, а ў палаце лордаў Парламента не было месца шатландскім арыстакратам. Таму пасля пакарання англійскага караля Карла І Сцюарта Шатландыя ў 1649 годзе лёгка выйшла з саюза з англічанамі і з 1650 года "Юніон Джэк" перастаў выкарыстоўвацца на баявых караблях. Толькі ў выніку баявых дзеянняў шатландцы вымушаны былі вярнуцца да непапулярнага саюзу і ў 1658 годзе на гюйсштоках зноў з'явіўся "саюзны гюйс". Да 1660 года ён меў у цэнтры эмблему з арфай Давіда — сімвалам Ірландыі, якая знаходзілася фактычна ў становішчы калоніі. Натуральна, што гэта эмблема ў хуткім часе знікла. І шатландцы, і ірландцы бесперапынна вялі ўзброеную барацьбу з англічанамі, дамагаючыся роўнапраўнага становішча ў саюзе. Шатландцам гэта ўдалося ў 1707 годзе. З гэтага года яны прысутнічалі ўжо ў абедзвух палатах парламента, а "Юніон Джэк" з'явіўся ў кантонах усіх трох кармавых флагаў ВМФ, прычым белы флаг атрымаў яшчэ і чырвоны крыж на палотнішчы — ён і сёння з'яўляецца кармавым флагам ВМФ Вялікабрытаніі. Ірландцам удалося дабіцца роўнапраўя амаль сто гадоў пазней. 1 студзеня 1801 года, у першы дзень XIX стагоддзя, на "Саюзным гюйсе" з'явіўся крыж св. Патрыка — заступніка Ірландыі. Прычым перакладзіны крыжа былі змешчаны, каб не закрываць поўнасцю шатландскі Андрэеўскі крыж (мал. 21).

Як бачым, флагі Англіі і Расіі, раней чым стаць дзяржаўнымі, не менш века выкарыстоўваліся ў гэтых краінах як карабельныя. Упершыню з'явіўся на моры і флаг ЗША.

Падзеі, што звязаны з утварэннем Злучаных Штатаў Амерыкі, чытачам, мабыць, добра вядомы. Першапачаткова паўстанцы лаяльна адносіліся да англійскага караля і нават пры стварэнні свайго першага дзяржаўнага сімвала — флага ВМФ ЗША выкарысталі два флагі метраполіі: флаг Вест-Індыйскай кампаніі, які складаўся з чырвоных і белых гарызантальных палос, якія чаргаваліся, і вядомы нам "Саюзны гюйс", які паўстаўшыя размясцілі ў кантоне свайго флага. Флаг гэты ўпершыню быў падняты 3 снежня 1775 года на флагманскім караблі амерыканскай ваеннай флатыліі "Альфрэд" як марская эмблема 13 калоній (менавіта столькі было палос на палотнішчы). Аднак добрыя адносіны да ангельскага манарха паступова мяняюцца на супрацьлеглыя: брытанскі флаг выклікае ўсё большае раздражненне і на пасяджэнні Кангрэса ЗША 14 чэрвеня 1777 года было вырашана зняць яго з кантона афіцыйнага флага (існавала вялікая колькасць неафіцыйных марскіх флагаў у штатах: белы з зялёнай елкай ваеннай флатыліі Д. Вашынгтона ў Масачусетсе, паласаты сіне-чырвоны са змяёй у Паўднёвай Караліне, сіні з пурпурнай гронкай вінаграда ў белым кантоне ў Канектыкуце і г. д.). На гэтым пасяджэнні прысутнічаў і капітан ваеннага карабля "Рэнжэр" нацыянальны герой ЗША Поль Джонс, які, вярнуўшыся ў Плімут, паведаміў мяркуемы малюнак дзяўчатам з гуртка "Флажныя пчолы", якія і сшылі першы ў гісторыі "Зоркавы флаг" ЗША, змясціўшы замест "Юніон Джэка" сіні прамавугольнік з 13 белымі пяціканцовымі зоркамі па колькасці штатаў (мал. 22). Зоркі былі размешчаны кальцом. Гэты флаг Поль Джонс падняў на флагштоку свайго карабля 4 ліпеня 1777 года, а ў верасні англічане ўпершыню ўбачылі яго ў баі. Трэба адзначыць, што "Зоркавы флаг" не ствараўся як дакладна марскі флаг, хоць і з'явіўся ўпершыню на моры — гэта быў флаг і сухапутных армейскіх часцей, і купецкіх суднышкаў. Пазней, па меры ўвелічэння колькасці штатаў, мянялася і колькасць зорак у кантоне (колькасць палос пасля няўдачнага вопыту вырашылі аставіць нязменным). Папраўкі ў кантон уносіліся 27 разоў і сёння ў ім знаходзіцца 50 зорак. Дзяржаўны флаг вельмі папулярны і шануемы ў ЗША, чаму іншым краінам патрэбна павучыцца. І нават ствараючы ў 1836 годзе кармавы флаг для караблёў ВМС Рэспублікі Тэхас (1835—1845 гады), тэхасцы выкарысталі "блізкі" дзяржаўны флаг ЗША, замяніўшы толькі шматлікія невялікія зоркі адной вялікай, сімвалізуючай іх радзіму, вядомую сваімі каўбоямі і прас-



*Мал. 21. Дзяржаўны флаг Вялікабрытаніі*



*Мал. 22. Першы "Зоркавы флаг" ЗША. 1777 год*

лавіўшуюся пазней на ўвесь свет багаццем сваіх нядраў.

Стварэнне дзяржаўнага флага Федэратыўнай Рэспублікі Германіі не было (вельмі рэдкі выпадак у Еўропе) звязана з мараплаваннем. Пасля разгрому гіганцкай арміі Напалеона ў Расіі ў 1813 годзе на еўрапейскім кантыненце пачаўся хуткі пад'ём нацыянальна-вызваленчага руху. У дапамогу рэгулярнай арміі ствараюцца апалчэнні. У Германіі нямецкія студэнты, якія не мелі абмундзіравання, нашылі на чорныя сюртукі чырвоныя пагоны, каўнеры, абшлагі і прыйшылі да імправізаваных мундзіраў латунныя бліскучыя гузікі. Так з'явілася спалучэнне чорнага, чырвонага і залацістага колераў. Вярнуўшыся з палёў антынапалеонаўскай вайны, студэнты заснавалі ў 1815 годзе ў Іене самакіруючы саюз "Буршэншафт". У 1816 годзе жанчыны горада падарылі саюзу сцяг з чырвонай, чорнай і чырвонай гарызантальных палос. Сцяг быў абшыты матузамі і меў у цэнтры вышытую залатымі ніткамі дубовую галінку (гл. мал. 7). Саюз пачаў барацьбу за аб'яднанне Германіі супраць "тыранаў" — былых князёў, якія былі вернуты на свае троны. Колеры іенскага сцяга сталі асновай для флага Германскага саюза 1848—1852 гадоў. Чорна-чырвона-залаты флаг гэтага саюза быў упершыню падняты ў Франкфурце-на-Майне 31 ліпеня 1848 года ў час работы Нацыянальнага сходу. У хуткім часе ён стаў ваенна-марскім, а затым і гандлёвым флагам. У снежні 1848 года флаг ВМФ атрымаў яшчэ і кантон: жоўты з чорным двухгаловым арлом Свяшчэннай Рымскай імперыі германскай нацыі, аб якім мы ўжо ўпаміналі і які стаў асновай дзяржаўнага герба саюза. Аднак прызналі флаг усяго чатыры дзяржавы, а англічане прапанавалі караблям ВМС адразу падымаць белы. Германскі саюз быў зыбкім няўстойлівым аб'яднаннем. У хуткім часе ён распаўся, князі разышліся па сваіх кватэрах, а баявыя караблі ў 1852 годзе прадалі з аукцыёна. Новая аб'яднаная Германія — спачатку Паўночна-Германскі саюз, а затым і імперыя пад скіпетрам прускіх Гагенцолераў не прыняла чорна-чырвона-залатое палотнішча. Яна атрымала ў якасці дзяржаўнага сімвала ў 1867 годзе чорна-белы-чырвоны флаг з чорна-белых колераў Прусіі і распаўсюджанага ў Германіі чырвонага. Ідэя гэтага імперскага флага належала прынцу Адальберу — марскому міністру Прусіі. Толькі пасля крушэння імперыі — у 1919 годзе дзяржаўны флаг ізноў становіцца чорна-чырвона-жоўтым. Але і ў Веймерскай рэспубліцы (па назве горада, дзе яна была абвешчана) яго прынялі не ўсюды. Ваенныя маракі адказаліся карыстацца гэтымі колерамі на сваіх караблях і паднялі гюйс імперскага флоту ў якасці кармавога флага, на якім толькі маленькі кантон колераў рэспублікі напамінаў, што гэта не судны кайзера Вільгельма. У 1933 годзе Адольф Гітлер аднавіў дзяржаўны флаг імперыі, а ў 1935 годзе замяніў яго партыйным чырвоным флагам з чорнай свастыкай у белым крузе. Флаг гэты ўпершыню падняты ў час "піўнога путчу" ў Мюнхене ў 1924 годзе насіў змрочную назву ў гітлераўскім стылі — "Флаг крыві". Разгром у 1945 годзе Трэцяга рэйха вярнуў на флагштокі і чорна-чырвона-жоўтае палотнішча. 9 мая 1949 года ён стаў дзяржаўным флагам створанай у амерыканскай, англійскай і французскай зонах акупацыі Федэратыўнай Рэспублікі Германіі. Абвешчаная ў кастрычніку 1949 года ў савецкай зоне акупацыі Германская Дэмакратычная Рэспубліка



*Мал. 23. Дзяржаўны флаг Федэратыўнай Рэспублікі Германіі*

прыняла гэты ж флаг, але на палотнішчы з кастрычніка 1959 года быў дабаўлены герб ГДР. І толькі пасля ўз'яднання 3 кастрычніка 1990 года ГДР і ФРГ усе немцы аб'ядналіся пад адзіным флагам (мал. 23).

У адрозненне ад германскага флага флаг Польшчы прама паўтарае колеры старажытнага каралеўскага герба, які меў белага арла на чырвоным полі. Згодна з легендай, адзін з трох братоў Лех у пошуках удзела зайшоў на паляну, на якой расло дрэва, а на яго вяршыне на фоне багранага закату сядзеў белы арол. Гэтая карціна і лягла ў аснову герба Польшчы. У сапраўднасці выява арла з'явілася толькі ў XIII стагоддзі, ва ўдзелах, якія ляжалі ля нямецкай граніцы, прытым не з'яўляецца галоўным, а даецца нароўні з выявай льва, лілії і месяца, якія наогул служылі сімвалам княжацкага паходжання. У Верхняй Сілезіі арол з'явіўся каля 1260 года. У Малой Польшчы арол сустракаецца каля 1226 года на пячатцы Лешака Белага, уладанні якога знаходзіліся на поўдні Польшчы. Галава арла звернута ўлева і апушчаны ўніз крылы. Толькі ў 1310 годзе арол з каронай на галаве прызнаны быў пастаянным дзяржаўным гербам Малой Польшчы. У Вялікай Польшчы ён узлунаў пасля 1230 года, але без кароны. Герб жа ўсёй Польшчы ўзнік толькі ў пачатку XIV стагоддзя. Пасля уніі з Вялікім княствам Літоўскім абодва бакі захавалі свае гербы, якія часам спалучаліся разам на адным шчыце. Пасля Другой сусветнай вайны карона на некаторы час знікла з галавы арла, але ў 1990 годзе з'явілася зноў (мал. 24). Што тычыцца флага, то той, які вядомы, з'явіўся ў час польскага паўстання 1831—1833 гадоў супраць рускіх заваёўнікаў. Ён узнік, як і французскі, з бела-чырвонай какарды, якая была прынята 7 лютага 1831 года Польскім сеймам для арміі ў сувязі з пачаткам паўстання. Нельга сказаць, што папярэдніка яму не было. Яшчэ ў пачатку XVII стагоддзя польскія воіны выкарыстоўвалі бела-чырвоны значок з белым і чырвоным кавалерскімі крыжамі. Аднак як сімвал усіх палякаў ён яшчэ не прымяняўся. Так, у XVII стагоддзі на ваенным флоце Рэчы Паспалітай, які праіснаваў даволі кароткі час, выкарыстоўваўся чырвоны флаг з выявай рукі з мячом — адзін з варыянтаў "Пагоні". У час Вялікай французскай рэвалюцыі легіёны генерала Дамброўскага ў Тулоне прымянялі чырвоны флаг з белым арлом як на сушы, так і на караблях у Сярэдеземнамор'і. Менавіта



*Мал. 24. Дзяржаўны герб Польшчы*



*Мал. 26. Дзяржаўны флаг Латвіі*

пасля падаўлення паўстання 1831—1833 гадоў бела-чырвоны флаг стаў сімвалам нацыянальна-вызваленчага руху і калі пачалося паўстанне палякаў 1861—1864 гадоў, то ў выбары малюнка флага паўстанцаў праблем не было. Праўда паласа была не чырвонай, а кармінавай. Пры ўзнаўленні польскай дзяржаўнасці ў 1919 годзе прапаноўваліся чырвоныя флагі з белым арлом або з рукой, якая трымала меч. Але яны былі адразу адвергнуты, так як бела-чырвонае палотнішча да гэтага моманту карысталася бясспрэчным аўтарытэтам як нацыянальны сімвал польскага народа (мал. 25). З 1992 года на белай паласе дзяржаўнага флага сталі маляваць герб краіны. Падводзячы вынікі, адзначым, што ў польскім флагу выкарыстоўваюцца колеры герба, але не паўтараецца як гэта было ў Аўстрыі, яго малюнак.

Цікавая гісторыя стварэння дзяржаўнага флага Латвіі. Каля 1870 года студэнты з арганізацыі Цербацкае братэрства млада-латышоў, якія вывучалі этнаграфію, традыцыі і гісторыю латвійскага народа, знайшлі ў тэксце сярэдневяковага "Рыфмованага летапісу" ўпамінанне аб тым, што восенню 1279 года рыцар з рэзідэнцыі Лівонскага ордэна прывёў атрад апалчэння пад чырвоным флагам з белай паласой "па Вендзенскаму звычаю" і далей тлумачылася, што Вендзен — замак на зямлі латаў. І хоць гэта было адзіночнае ўпамінанне аб флагу, а венды не былі продкамі латышоў, ахопленыя ўзвышанымі пачуццямі прабуджаючай нацыянальнай годнасці маладыя людзі абвясцілі, што са старажытных часоў флагам іх нацыі было цемна-чырвонае палотнішча з нешырокай белай гарызантальнай паласой. Паступова яно становіцца эмблемай нацыянальнага руху і ў 1917 годзе ў г. Рэзэкне ўпершыню падымаецца ўжо як сімвал латвійскага народа, а ў студзені 1923 года афіцыйна прымаецца як дзяржаўны флаг Латвіі (мал. 26). У час Другой сусветнай вайны на белай паласе яго змяшчалі яшчэ тры залатыя зоркі дзяржаўнага герба.

Стварэнне дзяржаўнага флага Чэхаславакіі (цяпер самастойных дзяржаў Чэхіі і Славакіі) — гэта шлях конкурснага адбору мноства паданых аўтарамі праектаў. Рэспубліка ўзнікла на развалінах Аўстра-Венгерскай імперыі, якая распалася на чатыры дзяржавы. Сама назва гаворыць аб двух нацыях, якія пражывалі ў яе межах,— чэхах і славаках. Іх сімволіка павінна была адлюстроўвацца ў дзяржаўным флагу і таму адразу адпаў як дзяржаўны флаг бела-чырвоны флаг Чэхіі, які выкарыстоўваўся першапачаткова Радай, паколькі ён з´яўляўся ад-



*Мал. 25. Нацыянальны флаг Польшчы*



*Мал. 27. Дзяржаўны флаг Чэхіі*

набокім сімвалам і быў аналагічны флагу Польшчы. Славакі карысталіся флагам, які паўтараў флаг Расіі. Быў аб'яўлен конкурс на праект дзяржаўнага флага рэспублікі. Сярод прапанаваных варыянтаў былі флагі бела-чырвоныя з сіняй вертыкальнай паласой, флагі з чатырма зоркамі, з чашай — сярэдневяковым сімвалам гусітаў і г. д. Аднак лепшым быў прызнаны праект архіварыуса Яраслава Курсы — бела-чырвоны флаг Чэхіі з сінім трохвугольнікам ля дрэўка — трэцім колерам славацкага флага. Такім і стаў флаг рэспублікі ў 1919 годзе. Пры распадзе Чэхаславакіі на дзве дзяржавы Славакія прыняла флаг падобны да расійскага, але з дзяржаўным гербам ля дрэўка. Што тычыцца Чэхіі, то яна пакінула ранейшы флаг з "славацкім" сінім колерам, але з 1 студзеня 1993 года некалькі змяніліся прапорцыі трохвугольніка — яго бакі цяпер супадаюць з дыяганалямі флага (мал. 27).

Некалькі інакш з'явіліся новыя дзяржаўныя флагі ў Афрыцы і Азіі. Тут флагі нацыянальна-вызваленчых рухаў ператвараюцца ў сімвалы краіны. Так з'явіліся палотнішчы флагаў у Анголе, Мазамбіку і шэрагу іншых дзяржаў.

На гэтым можна закончыць першую главу гэтай кароткай працы і пачаць расказ аб гісторыі флагаў нашай Радзімы — Беларусі.

## *Глава 2*

# ФЛАГІ БЕЛАРУСІ ЎЧОРА

Гісторыя флагаў Рэспублікі Беларусь поўная белых плямаў. Яны з'явіліся ў выніку варварскага знішчэння рэліквій і дакументаў у музеях і бібліятэках былога СССР пасля Вялікай Айчыннай вайны. Былі спалены белагвардзейскія сцягі і газеты часоў грамадзянскай, разбураны цэрквы, якія захоўвалі многія тайны. Цяпер прыходзіцца гадаць аб тым, што толькі ўчора пайшло ад нас. Таму наш расказ аб гісторыі флагаў нашай Бацькаўшчыны будзе не вельмі поўным. Тут не ўсё так прама і ясна. Гісторыя бела-чырвона-белага флага не мае, як гэта спрабуюць даказаць многія, глыбокіх гістарычных каранёў. Аб гэтым сведчаць і наступныя факты.

У нас няма падставы гаварыць аб якім-небудзь агульнанацыянальным флагу беларусаў раней XX стагоддзя. Былі толькі асабістыя флагі літоўска-беларускіх магнатаў і ваенныя сцягі. Сімволіка, якая існавала з X—XII стагоддзяў, была вельмі падобнай у розных княствах Старажытнай Русі, у тым ліку і на тэрыторыі, якую займае наша рэспубліка цяпер. Так, "трызубец" — сімвал полацкага князя Ізяслава (мал. 28) і "трызубец" — сімвал яго бацькі



*Мал. 28. Сімвал полацкага князя Ізяслава*



*Мал. 29. Сімвал кіеўскага князя Уладзіміра*

(мал. 29) — кіеўскага князя Уладзіміра (цяпер асноўны элемент дзяржаўнага герба Украіны) вельмі падобны па стылявому адзінству.

Старажытныя славяне мелі баявыя знакі — "станіцы" (ад слова "стан"). Але аб памеры, колеру, форме іх можна толькі меркаваць. На больш пазнейшых сцягах малявалася ікона — абаронца воінаў згодна з візантыйскай традыцыяй, якая існавала на Русі.

У перыяд Вялікага княства Літоўскага асноўным гербам з'яўлялася "Пагоня" — знак, які выкарыстоўваўся і вялікім князем — правіцелем беларуска-літоўскай дзяржавы (мал. 30). Гэты знак сімвалізуе старажытную ўсходне-славянскую традыцыю — адбіць палонных у ворага.

У Яна Длугаша ў апісанні Грунвальдскай бітвы, сведкам якой ён аднак не быў (звесткі асноўваюцца на апытанні яе ўдзельнікаў), маецца расказ аб сцягах літоўскіх харугваў (харугва адрознівалася ад палка колькасцю воінаў): "Пяцьдзесят першая харугва Жыгімонта-Карыбута мела на сцягу каня з ездаком ва ўзбраенні на чырвоным полі. Акрамя таго, былі ў Літоўскім войску Аляксандра-Вітаўта — вялікага князя Літвы,— харугвы, пад якімі стаялі толькі рыцары літоўскія,



*Мал. 30. "Пагоня" — дзяржаўны герб Рэспублікі Беларусь*



*Мал. 31. Сцяг казацкага атрада на Гомельшчыне. Сярэдзіна XVII стагоддзя*

рускія, жмудскія, татары... Сцягі, што былі назначаны такім харугвам, былі амаль усе аднолькавыя, таму што кожная мела на штандарце рыцара ва ўзбраенні, які сядзеў на белым, чорным, альбо гнедым, альбо пегім кані, трымаючы ў паднятай руцэ меч на чырвоным полі. Толькі дзесяць з іх мелі другі сцяг і адрозніваліся ад астатніх трыццаці: на іх чырвоным полі былі намаляваны знакі, якімі Вітаўт звычайна кляйміў сваіх коней...". Трэба адзначыць, што ў той час не было выразнай тэрміналогіі, а таму ў крыніцах таго перыяду слова "харугва" і "сцяг" маглі абазначаць адно і тое ж, што часта сустракалася.

Пазней, пасля адміністрацыйнай рэформы 1564—1566 гадоў, калі ўзніклі ваяводствы, кожнае з іх атрымала вялікакняжацкі сцяг з казны ("скарба"). У той час менавіта казна займалася вырабам падобных сцягоў, на што мелася выключнае права. Так адбывалася не толькі ў Вялікім княстве Літоўскім, але і практычна ва ўсіх цэнтралізаваных дзяржавах. У Расіі, напрыклад, вырабам сцягоў займалася толькі Аружэйная палата Маскоўскага Крамля. Больш таго, у часы Пятра І ні водзін сцяг не мог быць створан без адабрэння цара. Такім чынам, на ваяводскім сцягу размяшчаўся герб, які мелі таксама і сцягі паветаў (адміністрацыйная адзінка ваяводства). Вялікі сцяг ваяводства меў дзве касіцы, а сцяг павета — адну. Зрэшты, гісторык А. К. Цітоў знайшоў апісанне сцяга Слонімскага павета, у якога была не адна, а дзве касіцы. Ён меў чырвонае палотнішча, у цэнтры якога быў зялёны квадрат з "Пагоняй". Што ж датычыцца агульнадзяржаўнага сцяга, то ён меў чатыры касіцы, а на палотнішчы была намалявана "Пагоня" і Дзева Марыя з дзіцём Ісусам у сонцы. Натуральна, што ваяводскія сцягі былі меншых памераў у параўнанні з дзяржаўным. Ваенны сцяг гетмана — камандуючага літоўскай арміяй — меў чатырохвугольнае блакітнае палотнішча, з аднаго боку якога была намалявана "Пагоня", а з другога — св. Станіслаў Біскуп — епіскап Кракаўскі. Сцяг Віленскага ваяводства меў палотнішча з дзвюма касіцамі з "Пагоняй" на белым шчыце з аднаго боку і гербам "Калюмны" з другога. "Калюмны" — гэта стылізаваны трызубец, намаляваны на клеймах, якімі Вітаўт кляйміў сваіх коней — родавая эмблема Гедымінавічаў, якая ў XX стагоддзі ўпрыгожвае штандарт прэзідэнта Літвы. Сцягі, якія мелі падабенства са сцягамі Віленскага ваяводства, але без "Калюмны" мелі ваяводствы Мінскае, Полацкае і Навагародскае (раён гарадоў Ваўкавыска і Слуцка). Бярэсцейскае ваяводства мела блакітнае палотнішча з "Пагоняй" на чырвоным полі, Віцебскае — зялёнае з "Пагоняй" на белым полі, Мсціслаўскае — аранжавае. Колеры сцягоў паветаў паўтаралі колер ваяводскага сцяга. У час заключэння Люблінскай уніі, калі ўкраінскія землі добраахвотна перайшлі пад юрысдыкцыю Польскай кароны, з Кіеўскага ваяводства выдзяліўся Мазырскі павет, які быў уключаны ў склад Мінскага ваяводства і меў на той момант зялёнае палотнішча. Элементам, які аб'ядноўвае сцягі, была не каляровая гама, а герб "Пагоня", які таксама не меў адзінага колеру. Але ўсё вышэй апісаныя палотнішчы не з'яўляюцца флагамі. Аб гэтым сведчыць і "Подпіс войска Вялікага княства Літоўскага лета 1567 года", які паказвае, што сцягі паветаў з'яўляліся не сцягамі адміністрацыйнага раёна, а сцягамі павятовых харугваў — тактычнай адзінкі ў літоўскім войску, якая складалася з рыцарскіх атрадаў — "почтаў". На чале яе стаяў харунжы (харунжы па-польску сцяганосец — афіцыйна гэта слова засведчана ў час Уладзіслава Лакоткі). Харугва ж беларускіх татар складалася не з "почтаў", а са "сцягоў", якія, мабыць, мелі свае значкі. Сцягі ні ў якім разе не могуць разглядацца як нацыянальныя флагі беларусаў. Ваяводскія сцягі — гэта сімвал не народны, а арыстакратычны. Народныя сцягі з'явіліся ў XVII стагоддзі ў час шырокага нацыянальна-вызваленчага руху, які разгарнуўся на Украіне і паўднёвым усходзе Беларусі. Так, сцяг казацкага атрада на Гомельшчыне меў малінавае палотнішча з залатым крыжам у цэнтры (мал. 31). Крыж быў акантаваны карычневай палоскай, а ўздоўж верхняга і ніжняга пруга палотнішча цягнуліся блакітныя палосы.

Пасля 1566 года сфарміравалася аднародная дзяржава — Вялікае княства Літоўскае з адзіным пануючым саслоўем — шляхтай, якая мела свае коляры, у тым ліку і уніформу. Перадгісторыя з'яўлення колераў мундзіраў шляхціцаў прывед-

зена ў кнізе Т. і А. Езіаркоўскіх "Ваяводскія мундзіры абоіх народаў Рэчы Паспалітай" (Варшава, "Пельта", 1992). Пасля разгрому войскаў Барскай канфедэрацыі, да якой далучыўся і літоўскі гетман М. Агінскі (сваяк аўтара знакамітага паланэза), у 1772 годзе адбыўся першы раздзел Рэчы Паспалітай паміж моцнымі яе суседзямі, у выніку чаго яна згубіла больш чатырох мільёнаў свайго насельніцтва (Усходняя Беларусь адыйшла да Расіі). Гэта выклікала шок у грамадстве, выйсцем з якога было ўзмацненне нацыянальнага руху. Адной з яго праяў стала вяртанне грамадства да нацыянальнага адзення, якое замяніла выкарыстанне як у арміі, так і ў грамадстве вопратак нямецкага ўзору. Дэкрэтам 1776 года сейм увёў ваяводскія уніформы, а таксама уніформы для дэпутатаў сейма. Так, для беларускіх ваяводстваў і паветаў асноўнымі колерамі згодна палажэнню з'яўляліся: Браслаўскі павет — светла-сіні і чырвоны, Ашмянскі павет — зялёны, Лідскі павет — цёмна-сіні і цёмна-чырвоны, Гродненскі павет — чырвоны, аранжавы і зялёны, Полацкае ваяводства — вішнёвы і цёмна-сіні, Навагрудскае ваяводства — чырвоны і чорны, Ваўкавыскі павет — цёмна-чырвоны і цёмна-сіні, Аршанскі павет — зялёны і белы, Брэст-Літоўскае ваяводства — сіні і малінавы, Пінскі павет — сіні, Мсціслаўскае ваяводства — цёмна-сіні і светла-жоўты, Мінскае ваяводства і Мозырскі павет — чырвоны і цёмна-сіні, Рэчыцкі павет — цёмна-чырвоны і белы. Мундзіры гэтыя ўводзіліся не па адвольнаму рашэнню цэнтральнай улады Рэчы Паспалітай, а зацвярждаліся на мясцовых сеймах ваяводстваў, гэта значыць асновай іх былі традыцыйныя для дадзенай мясцовасці колеры. Гербы ваяводстваў на цяперашняй тэрыторыі Беларусі па каляроваму рашэнню больш адпавядалі чырвона-белай гаме. У Браслаўскага ваяводства на чырвоным шчыце намаляваны белы крыж з блакітным шчытком у цэнтры. На шчытку белая паўлуна. Гербамі "Пагоня" карысталіся толькі Троцкае, Віленскае, Полацкае, Брэст-Літоўскае, Мсціслаўскае і Мінскае ваяводствы, прычым на Полацкім шчыце ў конніка блакітны шчыт з залатым крыжам і конь, пакрыты чырвонай з блакітным беражком гунькай. Сам Полацкі шчыт — белы. На чырвоным шчыце інфлянтаў — белы з залатой дзюбай і каронамі грыфон. У правай лапе ў грыфона меч. На Навагрудскім гербе — чорны анёл з белымі крыламі і "Пагоня" на чырвоным полі. Але гэта датычыцца колераў адзення дваранства — шляхты. Простыя беларусы на працягу стагоддзяў карысталіся ў асноўным белым колерам — колер непафарбаваных палотнаў, і чырвоным. Толькі са з'яўленнем танных фарбавальнікаў (бліжэй да XX стагоддзя) гама стала больш разнастайнай.

На тэрыторыі цяперашняй Беларусі ў XVIII стагоддзі існавалі такія дзяржавы, як Паўлаўская рэспубліка і Цыганская міні-дзяржава. Стваральнікам Паўлаўскай рэспублікі быў Павел Бжастоўскі — шляхціц. Ён вызваліў сваіх сялян ад прыгоннай залежнасці, якія і сталі грамадзянамі гэтай дзяржавы. Рэспубліка мела свае законы, сваю армію, салдаты якой былі апрануты ў асобую уніформу, і, магчыма, свой флаг. Сталіцай быў горад Мярэчы, а рашэнне па Паўлаўскай рэспубліцы прымаў нават сойм Вялікага княства Літоўскага і зацвярджаў сейм Рэчы Паспалітай. Цыганская міні-дзяржава, сталіцай якой быў горад Мір, фармальна лічылася манархіяй — апошні цыганскі кароль спадар Марцынкевіч, сябра Радзівіла,




*Мал. 32. Сцяг мінскіх краўцоў. 1830 год*

эмігрыраваў у канцы XVIII стагоддзя, калі Беларусь Кацярынай II была далучана да Расіі. Яна была створана аседлымі цыганамі, выдатнымі рамонтнікамі, і славілася штогоднымі конскімі базарамі. Аб флагу цыганскай дзяржавы звестак няма. Вядомы сёння флаг цыганскага кангрэса "Рома" — палотнішча з роўных гарызантальных нябесна-блакітнай і зялёнай палос з чырвоным колам — сонечным знакам — "чакрам" у цэнтры.

Пасля таго як Беларусь у канцы XVIII стагоддзя ўвайшла ў склад Расійскай імперыі, гаварыць аб нацыянальным флагу беларусаў наогул не прыходзіцца. Аднак нельга сказаць, што не было беларускіх флагаў наогул. У 1830 годзе быў створан сцяг цэха мінскіх краўцоў — палотнішча з белых і сініх палос, якія чаргаваліся, і сімволікай у цэнтры, у склад якой уваходзяць і традыцыйныя кравецкія нажніцы — старадаўні сімвал прафесіі (мал. 32). На зваротным баку намаляваны святыя. Падобны герб мінскай губерні — благітныя палосы на залатым полі — быў прыняты значна пазней — у 1878 годзе.

Гістарычна ў беларускага, літоўскага і польскага народаў шмат агульнага. З літоўцамі беларусы стварылі адзіную дзяржаву, разам з палякамі вялі барацьбу за нацыянальнае вызваленне. Аб гэтым гаворыць і паўстанне пад кіраўніцтвам Кастуся Каліноўскага. Таму і сімвалы гэтых народаў былі блізкімі. Напрыклад, значок паўстаўшых беларусаў (мал. 33) меў бела-чырвонае палотнішча з дзвюма касіцамі. На чырвонай паласе размясціўся сіні шчыт з белым польскім арлом, а на белай — сіні шчыт з беларуска-літоўскай "Пагоняй". Сіні колер шчытоў гэтага вымпела звязаны з тым, што ў Польшчы з канца XVIII стагоддзя і да сярэдзіны XIX стагоддзя быў вельмі папулярны французскі "трыкалор". Як вядома, палякі ў справе ўзнаўлення Рэчы Паспалітай ускладвалі вялікія надзеі на дапамогу рэвалюцыйнай Францыі, а пазней — на Напалеона. Добраахвотнікі пад камандаваннем генерала Дамброўскага ўваходзілі ў склад войск французскай Дырэкторыі, а пяцітысячны польскі корпус — адзіны з зарубежных вайсковых кантынгентаў арміі Напалеона — заставаўся верным "імператару французаў" да канца. Гэты корпус у 1815 годзе ў поўным складзе быў уключаны ў трыццацітысячную армію Царства Польскага, якую ствараў вялікі князь Канстанцін Паўлавіч. Таму не дзіўна, што памяць аб "трыкалоры" захавалася сярод салдат і



*Мал. 33. Значок паўстаўшых беларусаў. 1863—1864 гады*

афіцэраў. Ёсць дадзеныя, што першы варыянт польскай какарды 1830 года складаўся з белага, чырвонага і сіняга колераў. Таму сіні колер мог з'явіцца на флагах у землях былой Рэчы Паспалітай у час паўстання 1863—1864 гадоў. Выкарыстанне "Пагоні" цалкам адпавядае ідэі, якую прапаноўвалі дзеячы вышэйшага заканадаўчага і выканаўчага органа паўстаўшых — Літоўска-Беларускага Чырвонага Жонда (урада) аб стварэнні незалежнай Беларуска-Літоўскай дзяржавы, якую тады называлі Літвой. "Народная дзяржава" праіснавала нядоўга — некалькі месяцаў. Яе ўрад паспеў выдаць закон аб ахове парадку, стварыў узброеныя сілы з паўстанцкіх атрадаў, увёў налогі. Няма толькі звестак аб флагу. Але паколькі палотнішчы польскіх флагаў складаліся з чырвона-белых палос, можна дапусціць, што беларускі флаг — гэта польскі плюс яшчэ адна белая паласа знізу. У гэтым ёсць няўхільная логіка. Хоць у гэтай гіпотэзе можна ўсумніцца па той прычыне, што аб бела-чырвона-белым флагу нідзе не ўпаміналася аж да 1909 года. Такое дапушчэнне не павінна выклікаць у нашых чытачоў пачуцце пратэсту і зняважанай нацыянальнай годнасці. Такое часта сустракаецца ў гісторыі флагаў. Мы ўжо гаварылі аб стварэнні нарвежскага флага. Дзяржаўны флаг Балгарыі з'яўляецца прамым падражаннем флагу Расіі, паколькі ў 1877 годзе Стыліяна Параскевава, якая рабіла першы ўзор флага, проста замяніла на расійскім флагу сінюю паласу зялёнай. І балгары, і нарвежцы добра ведаюць, як з'явіліся іх дзяржаўныя флагі, але гэта ніякім чынам не адбіваецца на іх шанаванні. Флагі некаторых рэспублік былой Югаславіі таксама створаны як падражанне флагу Расіі, якая выступала з часоў Пятра І заступніцай прыгнечаных туркамі славянскіх народаў.

Можна сустрэць расказ і аб тым, што быццам бы младалатышы першапачаткова планавалі прыняць бела-чырвона-белы флаг, але затым даведаўшыся, што яго выкарыстоўвалі беларусы ў час паўстання Кастуся Каліноўскага, адмовіліся ад свайго рашэння. Гэта здаецца малаверагодным. Па-першае, таму што латвійскія крыніцы не ўпамінаюць аб гэтым, а беларускія не паведамляюць аб наяўнасці ў гэты перыяд падобнага флага ў Беларусі. Па-другое, "Рыфмованы летапіс" чытаецца адназначна — чырвоны флаг з белай паласой. Па-трэцяе, дзве падзеі раздзяляе дзесяцігоддзе, а інфармацыі паступала ў Латвію не шмат. Але несумненна, што ідэя гэтага каляровага спалучэння "вітала ў паветры" Беларусі. Аднак мы ведаем, што бела-чырвона-белы флаг прапаноўваўся Л. Гросвальдсам як дзяржаўны флаг Латвіі і гэтая прапанова была ім знята пасля таго, як стала вядома, што менавіта такі флаг маюць беларусы. Гэта адбылося ў перыяд з 1920 па 1922 год, калі абмяркоўвалася пытанне аб латвійскім дзяржаўным флагу.

У справу адраджэння беларускай культуры вялікі ўклад унеслі браты Луцкевічы — Іван, археолаг і этнограф, і Антон, публіцыст і крытык. З імёнамі гэтых відных дзеячаў нацыянальна-вызваленчага руху звязана вельмі цікавая гіпотэза аб стварэнні беларускага нацыянальнага флага, якую прапанаваў у сваіх успамінах бацька цяперашняга кіраўніка арганізацыі беларускіх татараў "Аль-Кетаб" Якуб Якубоўскі. А справа вось у чым. Я. Якубоўскі пражываў да 1939 года ў Заходняй Беларусі і, як і іншыя беларусы, служыў у польскай арміі. З жаўнерамі праводзіліся заняткі, якія нагадвалі палітзаняткі ў Чырвонай Арміі. Групы збіралі па рэлігійнаму прынцыпу: каталікі, праваслаўныя, мусульмане. Аднойчы сярод салдат-мусульман выступаў Аршлан Крычынскі, прававе́д, выпускнік Пецярбургскага універсітэта, у якім вучыліся і Луцкевічы. Ён расказаў, што сярод продкаў Луцкевічаў былі беларускія татары (у І. Луцкевіча быў у асабістай калекцыі аль-кетаб — свяшчэнная кніга). Браты добра ведалі аб гэтым і падтрымлівалі цесныя кантакты з татарскай абшчынай, цікавіліся культурай, гісторыяй, звычкамі і мовай беларускіх татараў. У адным аль-кетабе яны знайшлі расказ аб Грунвальдскай бітве, у якой татары прымалі самы актыўны ўдзел. Частка з іх знаходзілася пад камандаваннем сына Хана Тахтамыша Джэлал-ат-Дзіна, якога хан Залатой Арды прыслаў на дапамогу Вітаўту, і выступаў пад зялёным сцягам Прарока, а другая падпарадкоўвалася непасрэдна Вітаўту. Гэта частка змагалася пад бела-чырвона-белым флагам Вітаўта, на які нашываліся поўмесяц і зорка. Калі і сапраўды Вітаўт ваяваў пад бела-чырвона-белым флагам, то, відавочна, гэта быў не агульнанацыянальны, а яго асабісты сцяг, паколькі ён не ўпамінаецца ў летапісах. Інакш у перыяд з 1904 па 1918 год літоўцам не прыйшлося б марудна доўга вырашаць пытанне аб нацыянальным флагу. У Літве аб ім не ведалі. Пытанне аб флагу было вырашана толькі ў красавіку 1918 года, калі было прынята жоўта-зялёна-чырвонае палотнішча без якіх-небудзь спасылак на яго старажытнасць.

Браты Луцкевічы, пазнаёміўшыся з інфармацыяй у аль-кетабе, пачалі прапагандаваць бела-чырвона-белы флаг як гістарычны флаг беларусаў, зыходзячы з таго, што бела-чырвона-белае па-

лотнішча было асабістым сцягам папулярнага на Беларусі вялікага князя.

На жаль, знайсці патрэбны аль-кетаб, дзе апісана Грунвальдская бітва, не ўдалося. Аднак палотнішча такіх колераў усё часцей і часцей сустракаецца ў розных рухах. У 1909—1912 гадах бела-чырвона-белымі лентамі карыстаюцца члены гурткоў дэмакратычнага беларускага студэнцтва ў Санкт-Пецярбургу (з успамінаў Я. Ф. Сушынскага), у 1916 годзе флаг з бела-чырвона-белым палотнішчам мела арганізацыя "Сувязь незалежнай Беларусі", якой кіраваў Вацлаў Ластоўскі. У час правядзення Дня беларускага значка 10—13 сакавіка 1917 года ў Мінску прадаваліся значкі з малюнкам гэтага флага.

У некаторых зарубежных крыніцах ("Флаг-бюлетэнь", ЗША; "Флагі і гербы міра" Геслера, ФРГ) датай утварэння беларускага флага лічыцца 25 сакавіка 1917 года, аб чым сведчылі дзеячы Беларускай Народнай Рэспублікі. Па ўспамінах удзельніцы Першага Беларускага кангрэса ў Мінску Зоські Верас, над будынкам быў вывешаны чыста белы флаг, што з'яўлялася дакладнай графічнай транскрыпцыяй назвы "Белая Русь". Аднак многія дэлегаты кангрэса ўсумніліся: белы флаг — гэта сімвал контррэвалюцыі і рэакцыі. Каб адмежавацца ад гэтага падабенства, Беларускі нацыянальны камітэт змясціў пасярэдзіне палотнішча сімвал рэвалюцыі — чырвоную паласу. Атрымалася бела-чырвона-белае палотнішча, якое, аб чым мы ўжо гаварылі, існавала. Значыць, лічыць дзень 25 сакавіка днём нараджэння беларускага флага неправамерна. Аднак гэты факт гаворыць аб тым, што бела-чырвона-белы флаг не быў яшчэ шырока вядомы.

Вясной 1917 года гэты флаг быў у Петраградзе над будынкам Беларускага таварыства дапамогі пацярпеўшым ад вайны. Часопіс "Гоман" за 12 кастрычніка 1917 года паведамляе аб дзейнасці беларускага культурна-асветніцкага таварыства ў Петраградзе, над будынкам якога развіваўся бела-чырвона-белы флаг. І літаральна ў першыя дні Першага Усебеларускага з'езда ў Мінску Беларуская Рада 12-ай дзеючай арміі на сваім пасяджэнні ад 8 снежня 1917 года пастанавіла: салдаты-беларусы павінны ўшыць у другую пятліцу шынелі зверху ленту бела-чырвона-белых колераў.

Але былі і іншыя меркаванні адносна нацыянальнай сімволікі. Сведчаннем таму з'яўляецца прапанаваны з'езду праект беларускага флага з блакітнай, белай і чырвонай гарызантальнымі палосамі. У гэтай сувязі цікавая заметка, якая была надрукавана ў газеце "Вольная Беларусь" ад 12 снежня 1917 года пад назвай "Мара", дзе аўтар паэтычна апісвае Беларусь, услаўляючы яе блакітныя азёры, неба, вочы беларусаў, а таксама белыя дарогі, хаты, валасы старых і г. д.

Тым не менш, як сведчыць у сваіх мемуарах Я. Ф. Сушынскі, сцэна Гарадскога тэатра (цяпер тэатр імя Я. Купалы) у час правядзення Першага Усебеларускага з'езда была ўпрыгожана бела-чырвона-белымі палотнішчамі. Вось як апісваецца адкрыццё з'езда 7 снежня 1917 года ў газеце "Вольная Беларусь" № 3 за 15 снежня 1917 года: "А ў восьмым часу аркестр ваеннай музыкі іграў "Марсельезу". Потым выступіў беларускі хор у нацыянальным адзенні... Над іх галовамі ўзвышаліся беларускія нацыянальныя флагі... Выступіў з прамовай прадстаўнік ад бальшавікоў якісьці латыш, які ў канцы сваёй прамовы прапанаваў зняць і знішчыць беларускі нацыянальны штандарт, таму што гэта ёсць рэч непатрэбная. Паднялося абурэнне. Выступіў селянін і сказаў: "Нам не патрэбны гэтакія латышскія настаўнікі". А стары генерал беларус пацалаваў беларускі нацыянальны штандарт".

18 снежня 1917 года ў тры гадзіны ночы на з'ездзе была прынята рэзалюцыя аб пераходзе ўлады ў Беларусі да Беларускай рады з'езда, пасля чаго бальшавікі вырашылі, што пара канчаць з падобнай дэмакратыяй, акружылі будынак салдатамі і разагналі з'езд. Прыняць рашэнне аб дзяржаўным флагу проста не паспелі.

Можна сказаць, што менавіта снежань 1917 года пэўна і быў тым перыядам, з якога бела-чырвона-белы флаг стаў успрымацца ў масавай свядомасці як нацыянальны флаг беларусаў. Гэта і не дзіўна. Таму што дэлегатам Першага Усебеларускага з'езда, якія прыехалі сюды з усіх куткоў Беларусі, бела-чырвона-белае палотнішча было прадстаўлена як нацыянальны флаг, як дзяржаўны "штандарт". Несумненна, што раз'ехаўшыся па сваіх родных месцах, яны паведамлялі аб флагу мясцовым жыхарам. Узнавіць палотнішча было няцяжка — флаг меў просты малюнак, што таксама спрыяла яго хуткаму распаўсюджванню і шырокаму выкарыстанню ў Беларусі.

Закрыццё з'езда бальшавікамі зрабіла немагчымым выкарыстанне сімволікі з'езда, у дадзеным выпадку бела-чырвона-белага флага, пры савецкай уладзе. Аднак у кароткі перыяд з 18 па 25 лютага 1918 года, калі Саветы фактычна згубілі кантроль над сітуацыяй (19 лютага органы Савецкай улады пакінулі Мінск), існаваў урад Беларускай рады і яе сакратарыят. Над будынкам, дзе ён знаходзіўся, быў падняты вядомы нам флаг. Як піша Е. Канчэр у сваёй працы "Беларускае пытанне", выдадзенай у 1919 годзе ў Петраградзе, 25 лютага 1918 года ў будынак сакратарыята Народнай рады з'явіўся з атрадам салдат германскі камендант горада і заняў памяшканне, прыказаўшы зняць бела-чырвоны-белы беларускі нацыянальны флаг.

Немцы не перашкаджалі стварэнню беларускай дзяржавы. Тым больш, што яны кантралявалі сітуацыю. Пасля абвяшчэння а шостай гадзіне раніцы 25 сакавіка 1918 года Беларускай радай незалежнасці ураду БНР пэўна не было калі абмяркоўваць заканадаўчыя акты аб сімволіцы — існавала шмат іншых праблем. І сімволіка — герб "Пагоня" і бела-чырвона-белы флаг — існавалі самі па сабе. Нікім не зацверджаныя, не меўшы стандартнага ўзору для тыражыравання, яны адвольна мяняліся, захоўваючы толькі агульную канцэпцыю. Часта з'яўляліся сцягі, створаныя на аснове бела-чырвона-белага флага, напрыклад белае палотнішча, якое мела чырвоную паласу з аднаго боку і "Пагоню" ў праменнях сонца — з другога. Бывае на супрацьлеглым баку змяшчаўся толькі надпіс: "Няхай жыве вольная Беларусь". Толькі 5 жніўня 1918 года з'яўляецца дакумент, якім Сакратарыят БНР зацвярджае бела-чырвона-белы флаг. А 11 жніўня 1918 года ў газеце "Вольная Беларусь" з'яўляецца яго першае апісанне. У артыкуле В. Ластоўскага "Што трэба ведаць кожнаму Беларусу" ў раздзеле VII "Сімвалы Беларусі" ён піша: "Якія нацыянальныя колеры? Нацыянальны беларускі колер — бела-чырвоны. З гэтых колераў састаўлен і беларускі флаг, які складаецца з трох уздоўж палосак — белай, чырвонай і зноў белай". Пры зацвярджэнні гэтага флага былі прадстаўлены акрамя бела-чырвона-белага яшчэ некалькі праектаў дзяржаўнага

флага БНР. На жаль, звестак аб праектах не захавалася. Хто ж быў іх аўтарам? Ім з'яўляецца вядомы дзеяч вызваленчага руху, палітык, член урада БНР Клаўдзій Сцяпанавіч Душэўскі. У сваёй аўтабіяграфіі, напісанай у 1934 годзе ў г. Каўнасе, дзе Душэўскі пражываў у той час, ён піша: "Цікава адзначыць, што беларусы выбралі сваім дзяржаўным гербам той, што і літоўцы, гэта значыць белую "Пагоню" на чырвоным полі, аднак нацыянальнага флага не было. Мне давялося зрабіць некалькі праектаў нацыянальнага флага, і адзін з іх быў прыняты: а менавіта: бела-чырвона-белы. З таго часу гэты флаг і лічыцца беларускім нацыянальным флагам". К. С. Душэўскі не ўказвае дату апісанай падзеі і, змясціўшы гэты ўрывак у газеце "Звязда" ад 25 сакавіка 1992 года, кандыдат гістарычных навук С. Рудовіч лічыць, што гутарка ідзе аб пачатку 1917 года. Але мы не можам згадзіцца з гэтым. Справа ў тым, што ў 1917—1918 гадах пытанне аб беларускім флагу абмяркоўвалася толькі двойчы: у сакавіку 1917 года і летам 1918 года. Але першы раз гэта адбывалася стыхійна, без якой-небудзь папярэдняй падрыхтоўкі, і гутарка аб некалькіх праектах не ішла. Падобнае адбылося толькі ў 1918 годзе. З'яўленне сярод праектаў існаваўшага, але нікім не зацверджанага флага заканамерна, як заканамерны і наступны выбар. Што ж датычыцца сцвярджэння Душэўскага аб аўтарстве, то трэба памятаць, што аўтабіяграфія напісана на літоўскай мове, таму прызначаецца літоўцам, а не беларусам. Афіцыйна флаг быў аб'яўлен толькі ў верасні 1918 года. Становішча рэспублікі ў гэты час было вельмі цяжкае. Альба-Русся — Белая Русь — Беларусь не была прызнана. Як паведамляе ў 1918 годзе газета "Вольная Беларусь", у сувязі з гэтым сакратар Рады Я. Воронка вымушан быў паслаць ноты урадам Расіі і еўрапейскіх дзяржаў з ізлажэннем гісторыі стварэння БНР. Было не да сімвалаў. Аб іх быццам забыліся. Не было апублікавана і палажэнне аб флагу, тлумачэнне колераў. У снежні 1918 года ў Мінск зноў вярнулася савецкая ўлада, а урад БНР перабраўся ў 1919 годзе ў Вільню, дзе і працягваў функцыяніраваць да 1925 года. На фотаздымку таго часу відаць, што выкарыстоўваліся флагі БНР з вузкімі, відавочна, чорнымі палоскамі ўздоўж чырвонай паласы (мал. 34, рэканструкцыя колеру). Што ж, эміграцыя, нават калі ў дадзеным выпадку і адносная (няма дзяржавы, але ў раёне Вільні пражывала вельмі шмат беларусаў),— гэта заўседы трагедыя для тых, хто любіць сваю Радзіму, і знак траура з'яўляецца такім натуральным у гэтай сітуацыі. Выказвалася думка, што палосы могуць быць цёмна-чырвонымі, але аўтары лічаць, што на чорна-белым фотаздымку ў гэтым выпадку не было б такога рэзкага кантрасту паміж колерамі. У далейшым нацыянальны флаг выкарыстоўваўся ў Заходняй Беларусі. Ён вывешваўся ў беларускіх школах, з'яўляўся на мітынгах і сходах. Ёсць звесткі, што яго выкарыстоўвала кампартыя Заходняй Беларусі. У многіх месцах з бела-чырвона-белымі палотнішчамі жыхары заходніх абласцей сустракалі ў 1939 годзе савецкія войскі.

А што ж адбывалася ў Савецкай Беларусі, датай заснавання якой лічылася 1 студзеня 1919 года. Натуральна, што асновай флага Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі Беларусь з'явілася чырвонае палотнішча, стандартнае для рэвалюцыйных урадаў. Упершыню яно было выкарыстана як рэвалюцыйны сімвал у час бурных падзей у Парыжы ў пачатку трыццатых гадоў XIX стагоддзя. Чырвонае палотнішча раней было вядома ў Еўропе як «флаг непадпарадкавання» — яго выкарыстоўвалі пірацкія караблі, а ў 1797 годзе паўстаўшыя ангельскія ваенныя маракі ў час паўстання пад кіраўніцтвам Р. Паркера ў вусці Тэмзы. Аднак як рабочы флаг яго праславіла Парыжская камуна, дзяржаўным флагам якой ён з'яўляўся ў 1870 годзе. З таго часу гэта прызнаны сімвал камуністычных рухаў усіх народаў і ўсіх масцей.

У Расійскай Імперыі чырвоны флаг быў сімвалам першай рускай рэвалюцыі 1905—1907 гадоў. Пасля лютаўскай рэвалюцыі 1917 года чырвоны гвідон падымаўся на мачтах караблёў Балтыйскага флоту як знак працягу рэвалюцыйных пераўтварэнняў, супрацьпастаўляўся сімвалам Часовага урада ў час кастрычніцкага перавароту (так першапачаткова называлі яго самі бальшавікі). Гэта не значыць, што новая ўлада адразу адмовілася ад старых сімвалаў, як запэўнівалі нас усе семдзесят гадоў існавання СССР. Але той факт, што іх выкарыстоўвалі таксама і сілы, якія супрацьстаялі ўладзе Саветаў, прымусіў кіраўнікоў РСФСР замяніць дзяржаўны флаг Расіі і Андрэеўскі флаг яе ваеннага флоту. У красавіку 1918 года для ваеннага флоту было прапанавана чырвонае палотнішча з жоўтым надпісам, які расшыфроўваў новую назву краіны. Аднак у маі флаг быў прызнаны няўдачным і нідзе і ніколі не падымаўся. Толькі 10 ліпеня 1918 года на V Усерасійскім з'ездзе Саветаў быў прыняты дзяржаўны і ваенны флагі РСФСР. Першы меў чырвонае палотнішча з буквамі «РСФСР» у форме крыжа ў вугле ля дрэўка, а другі — такі ж надпіс, але ў чырвоным, абведзеным залатой палоскай кантоне. Тая абставіна, што прамысловасць адразу наладзіла выпуск ваеннага флага для патрэб ВМС, садзейнічала таму,



*Мал. 34. Флаг урада БНР у Вільні. 1919—1925 гады (рэканструкцыя колеру)*



*Мал. 35. Флаг ССР Літва і Беларусь. 1919 год*

што ён у блытаніне грамадзянскай вайны стаў пастаўляцца ў якасці дзяржаўнага ў дыпламатычныя прадстаўніцтвы і ў арганізацыі, па сутнасці заменіўшы прыняты дзяржаўны флаг. Менавіта гэта палотнішча і стала ўзорам для пераймання ва ўсіх маладых савецкіх рэспублік.

Згодна з першай Канстытуцыяй ССРБ, якая была прынята 3 лютага 1919 года, флаг апісваецца наступным чынам: «Гандлёвы і ваенны флаг ССРБ прамавугольнае чырвонае (пунцовае) палотнішча з залатымі буквамі ў верхнім вугле ля дрэўка ССРБ або надпісам «Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Беларусь». Аднак яшчэ да зацвярджэння гэтай Канстытуцыі, у канцы студзеня 1919 года прымаецца рашэнне аб пажаданасці уніі гэтых рэспублік. Таму эталонная выява флага ССРБ нават не распрацоўвалася. 20—22 лютага 1919 года з'езд Саветаў Літвы прымае рэзалюцыю аб зліцці з Беларуссю, а з 27 лютага ўжо існуе Савецкая Сацыялістычная Рэспубліка Літва і Беларусь, якая мела назву Літбела са сталіцай у Вільні. Як і БНР, ураду Літбелы было не да сімволікі і таму Дзяржаўным флагам гэтай рэспублікі лічылася чыстае чырвонае палотнішча з адносінамі шырыні да даўжыні 1 : 2 (мал. 35). Літбела перастала існаваць 19 ліпеня 1919 года. Далейшыя падзеі — грамадзянская вайна, польская акупацыя, наступленне Чырвонай Арміі на Варшаву і яе цяжкае паражэнне закончыліся раздзелам Беларусі і сімволіка не была распрацавана. Таму пасля аднаўлення ССРБ 1 жніўня 1920 года яе флаг па-ранейшаму адпавядаў прынятаму ў лютым 1919 года. На жаль, пошук выявы Дзяржаўнага флага ССРБ перыяду 1920—1924 гадоў у Беларускім дзяржаўным архіве (БДА), у Беларускім дзяржаўным архіве кінафотафонадакументаў (БДА КФФД), Нацыянальным гістарычным музеі і Нацыянальнай бібліятэцы, нягледзячы на добразычлівасць і актыўную дапамогу іх супрацоўнікоў, не прывялі да пажаданых вынікаў. Таму зроблена спроба па апісанню рэканструяваць яго малюнак, выкарыстаўшы графічнае выкананне надпісу ССРБ на дзяржаўным гербе 1922—1923 гадоў і па аналогіі з падобнымі флагамі іншых рэспублік СССР (мал. 36, рэканструкцыя). Што датычыцца выявы Дзяржаўнага флага ССРБ у альбомах, якія выдаваліся ў Маскве і Петраградзе, то яны выклікаюць сумненні, паколькі не адпавядаюць афіцыйнаму апісанню.

Патрэбна асобна засяродзіць увагу на падзеях лістапада — снежня 1920 года на Случчыне. Слуцкія паўстанцы выкарысталі ў якасці дзяржаўнага бела-чырвона-белы флаг. Спроба стварэння беларускай нацыянальнай арміі рабілася яшчэ ў 1917 годзе. Пасля кастрычніцкага перавароту 10 лістапада 1917 года па старому стылю са стаўкі вярнуліся дэлегаты Беларускай Вайсковай Рады. Стаўка згадзілася з фарміраваннем у Мінску беларускіх палкоў. Неўзабаве былі арганізаваны два беларускія батальёны. У студзені 1918 года фарміраваўся нацыянальны конны беларускі полк і збіраліся ў Мінску салдаты для фарміравання беларускай арміі. Аднак пасля акупацыі германскімі войскамі большай часткі Беларусі гэтую работу БНР прыйшлося пачынаць ізноў і на гэты раз пад кантролем немцаў. Пры савецкай уладзе, калі існаваў ваенны саюз рэспублік, аб нацыянальнай арміі не магло быць і гаворкі. 14—15 лістапада 1920 года праходзіў Першы з'езд Случчыны, дэлегаты якога адхілілі савецкую ўладу, якая пачынала ўстанаўлівацца на гэтай тэрыторыі, і віталі Раду БНР, запэўніўшы, што прыкладуць усе намаганні да аднаўлення Айчыны. З'езд утварыў Раду Случчыны. Яна адразу ж пачала ствараць міліцыю і аб'явіла набор для фарміравання рэгулярных вайсковых атрадаў. За некалькі дзён было рэкрутавана каля дзесяці тысяч чалавек і створана Слуцкая брыгада, якой камандаваў спачатку харунжы Гаўрыловіч, а затым капітан Сакалоў-Кутылоўскі. Брыгада складалася з Першага палка Слуцкіх мушкецёраў і Грозаўскага палка (Грозава — сяло Капыльскага раёна). Афіцэры насілі уніформу царскай арміі. З абмундзіраваннем салдат было цяжэй. Аднак ва ўсіх на шапках меўся знак "Пагоня", а ў афіцэраў ён знаходзіўся на каўнеры. Пэўна былі выкарыстаны запасы эмблем, якія былі створаны яшчэ ў 1918 годзе. Узброена брыгада была дрэнна. І вось для гэтай маленькай арміі беларускія жанчыны пашылі сцяг і ў снежні 1920 года падаравалі яго паўстанцам. Сцяг меў белае палотнішча з гербам «Пагоня» ў цэнтры (мал. 37). Вышэй герба па дузе быў вышыты надпіс: «Першы Слуцкі полк стральцоў», а ніжэй герба: «Беларускай Народнай Рэспублікі». На зваротным баку быў вышыты надпіс: «Тым, што пайшлі паміраць, каб жыла бацькаўшчына». Сцяг быў абшыты махрой. 28 лістапада брыгада атрымала благаславенне праваслаўнай царквы і выйшла на баявыя пазіцыі. Між тым баявыя сутыкненні з Чырвонай Арміяй




*Мал. 36. Дзяржаўны флаг ССРБ. 1920—1924 гады (па апісанню)*




*Мал. 37. Сцяг Першага Слуцкага палка ў час Слуцкага паўстання. 1920 год (колер сцяга невядомы)*

пачаліся яшчэ 27 лістапада і былі паспяховымі для паўстаўшых — ім удалося нават заняць Слуцк. Аднак барацьба была няроўнай. Пад націскам моцнага праціўніка, з цяжкімі баямі брыгада пачала адыходзіць на захад і пасля пяці нядзель барацьбы, 31 снежня 1920 года, апошні атрад перасёк граніцу з Польшчай, дзе згодна з дагаворам з Савецкай Расіяй быў раззброен палякамі. Ёсць звесткі, што ў час знаходжання інтэрніраваных часцей у лагеры ваеннапалонных каля горада Лодзь сцяг знаходзіўся з імі. Пазней байцы брыгады аказаліся хто ў Польшчы, хто ў Францыі, а хто і ў ЗША, і сляды сцяга згублены. Бела-чырвона-белы флаг выкарыстоўвалі і вайсковыя фарміраванні Булак-Балаховіча. Гэта дало падставу многім несумленным палітыкам абвінавачваць флаг. Калі падыходзіць з падобных пазіцый, то ад дзяржаўнага флага прыйшлося б адказацца французам (яго выкарыстаў маршал Петэн — саюзнік нацыстаў) і італьянцам (яго выкарыстаў Мусаліні). Расійскі флаг, напрыклад, выкарыстоўвалі чарнасоценцы, а флаг СССР — Яжоў і яго спадручныя. Але прыкладаў асуджэння дзяржаўнага флага па адзначаных прычынах нідзе няма, акрамя нашай краіны. І бела-чырвона-белы флаг быў забаронены савецкай уладай як дзяржаўны сімвал.

Але вернемся да флагаў савецкага перыяду. Пасля стварэння СССР пачалася чарговая ўсесаюзная кампанія па распрацоўцы новых дзяржаўных флагоў рэспублік. За ўзор быў прыняты першы варыянт Дзяржаўнага флага СССР, у цэнтры чырвонага палотнішча якога быў змешчаны Дзяржаўны герб СССР.

У нашай рэспубліцы былі зменены не толькі агульны малюнак, але і абравіятура назвы рэспублікі: яна стала БССР.

25 верасня 1924 года на пасяджэнні Саўнаркама была прапанавана канцэпцыя новага флага БССР — чырвонае палотнішча з гербам ля дрэўка, а 8 кастрычніка 1924 года на пасяджэнні СНК БССР у пратаколе № 38 у пункце 576 (БДА, ф. 7, у воп. І, адзінк. зах. 47, арк. 5) запісана: «Аб Дзяржаўным флагу БССР. Даручыць Інстытуту Беларускай Культуры прадставіць праект відарыса на Дзяржаўным флагу БССР эмблемы, якая характарызуе асаблівасці БССР і сувязь яе з СССР». У гэты ж дзень у г. Полацку ўжо з'явіўся наступны дакумент (БДА, ф. 249, у воп. І, адзінк. зах. 55, арк. 132):

«Абавязковая пастанова № 49 Полацкага акруговага выканаўчага камітэта ад 8 кастрычніка 1924 г.).

На падставе пп. 70 і 71 Канстытуцыі Саюза ССР аб устанаўленні на тэрыторыі БССР адзінага флага і герба і на падставе пастановы Савета Народных Камісараў БССР ад 25 верасня 1924 года Акруговы Выканаўчы Камітэт пастанаўляе:

1. З дня апублікавання гэтай абавязковай пастановы афіцыйным флагам лічыць на ўсёй тэрыторыі акругі чырвонае палотнішча з гербам ля дрэўка.

2. Па заканчэнні аднаго месяца з дня апублікавання гэтай абавязковай пастановы забараняецца карыстацца дзяржаўным флагам неустаноўленага ўзору.

3. Манапольнае права на выраб і распаўсюджанне адзінага флага на тэрыторыі акругі надаецца Помдзетбелу, у якога і трэба набываць флаг.

4. Усім установам, прадпрыемствам і арганізацыям, а таксама домакіраўніцтвам і домаўладальнікам, якія знаходзяцца на тэрыторыі Полацкай акругі, прапануецца набыць флаг устаноўленага ў п. 1-ым узору.

5. Нагляд за выкананнем гэтага ўскладваецца на міліцыю.

6. Вінаватыя ў парушэнні гэтай абавязковай пастановы належыць да адказнасці ў адміністрацыйным парадку штрафу да 300 рублёў або арышту да 3-х месяцаў».

Людзей абавязвалі набываць тое, чаго няма. Падобнае адбывалася і ў іншых акругах. Прычым кампанія гэтая накіроўвалася зверху. Флаг па ўсёй рэспубліцы абавязвалі набываць толькі ў арганізацыі Помдзетбел, назначаліся ўпаўнаважаныя па збору грошай. У сувязі з высокім коштам флага (два рублі і больш) ад яго абавязковага набыцця аслабаняліся беднякі ў вёсках, але затое кулакі, цэрквы, сінагогі і касцёлы абавязваліся купіць па два флагі.

А ў гэты час праца над новым дзяржаўным палотнішчам ішла сваёй чаргой, і 9 снежня 1924 года на пасяджэнні СНК быў заслуханы тав. Парэчын, які выклаў праект пастановы аб новым флагу (БДА, ф. 7, у воп. І, адзінк. зах. 56, арк. 157). Вось яго тэкст:

«ПАСТАНОВА Цэнтральнага Выканаўчага Камітэта і Савета Народных Камісараў Б.С.С.Р

Цэнтральны Выканаўчы Камітэт
і Савет Народных Камісараў пастанаўляюць:

Аб'явіць наступнае падрабязнае апісанне Дзяржаўнага флага Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі.

Флаг чырвоны (або пунсовы) прамавугольны з адносінамі даўжыні да шырыні як 2 : 1.

У верхнім левым вугле флага ў вянку з жытніх каласоў (левы бок вянка) і хваёвай галінкі (правы бок вянка) серп і молат. Праз вянок злева направа наўскос з адхіленнем уверх надпіс «БССР» на беларускім арнаменце. Наверсе, дзе зыходзяцца абедзве паловы вянка, чырвоная пяціканцовая зорка, ашлякаваная золатам. Уся эмблема залатая».

Рашэнне з гэтай нагоды было аформлена пратаколам № 51 пасяджэння СНК і ЦВК ад 10 снежня 1924 года ў пункце 725 «Аб зацвярджэнні эмблемы для флага БССР» (БДА, ф. 7, у воп. І, адзінк. зах. 56, арк. 4 аб). Там запісана: «Прыняць прапанаваны праект, замяніўшы ў эмблеме хваёвую галінку дубовай. Апублікаванне апісання флага адкласці да высвятлення пытання аб тым, якія дзяржаўныя флагі існуюць у УССР і ЗСФСР». На гэтым усё і скончылася. У далейшым аб гэтым флагу ўжо не ўспаміналі.

Аднак пытанне трэба было вырашаць. У чарнавіку праекта Канстытуцыі БССР, які рыхтаваўся да VII з'езда Саветаў, гэтае пытанне абыйшлі. Аднак у тэксце гэтай жа Канстытуцыі, надрукаваным да пачатку 4-ай сесіі ЦВК VI склікання ў 1925 годзе, апісанне флага было такім: «Дзяржаўны флаг БССР складаецца з чырвонага або пунсовага палотнішча, у верхнім вугле якога ля дрэўка змешчаны залатыя буквы «БССР» або надпіс «Беларуская Сацыялістычная Савецкая Рэспубліка». Яно практычна нічым не адрознівалася ад прынятага ў лютым 1919 года на Першым Усебеларускім з'ездзе Саветаў.

Цікава, што па ініцыятыве Старшыні СНК БССР І. А. Адамовіча быў распрацаваны ў 1927 годзе варыянт Дзяржаўнага герба, аздобленага не чырвонай, а бела-чырвона-белай лентай. А за год да гэтага ў час канферэнцыі па рэформе беларускай

мовы, якая праводзілася Інбелкультам, па сведчанню латышскага паэта Яніса Райніса і В. Ластоўскага, памяшканне дома ў Мінску, дзе яна праходзіла, было ўпрыгожана бела-чырвона-белым сонцам з пяццю трохкаляровымі бела-чырвона-белымі праменямі.

Падводзячы вынік усяму сказанаму, можна заключыць, што ў перыяд з канца 1924 па 1927 год БССР па сутнасці не мела Дзяржаўнага флага.

11 красавіка 1927 года прымаецца новая Канстытуцыя БССР, а разам з ёй новы герб і флаг, які ўпершыню меў эталон (мал. 38). Апісанне ж яго ідэнтычна старому, але больш канкрэтна і карацей: «Арт. 75. Дзяржаўны флаг Беларускай Сацыялістычнай Савецкай Рэспублікі складаецца з чырвонага або пунсовага палотнішча, у левым вугле якога ля дрэўка змешчаны залатыя буквы — «БССР».

У сувязі з масавым прыняццем саюзнымі рэспублікамі новых канстытуцый у 1936—1938 гадах іх флагі вырашана было прыблізіць да агульнасаюзнага. Згодна з Канстытуцыяй БССР, якая была прынята 10 лютага 1937 года, новы флаг атрымлівае наступнае апісанне: «Артыкул 120. Дзяржаўны флаг Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі складаецца з чырвонага палотнішча з відарысам у яго верхнім вугле, ля дрэўка залатых сярпа і молата і над імі — чырвонай пяціканцовай зоркі, абрамленай залатым шлякам, а ўнізе сярпа і молата залатыя буквы — БССР. Адносіны шырыні да даўжыні 1 : 2». Эталонная выява флага ўводзіцца 5 красавіка 1937 года пастановай Прэзідыума ЦВК БССР (мал. 39).

А што ўяўляюць сабой сімвалы, якія змешчаны на флагу 1937 года? Эмблема «Серп і молат» згодна з даследаваннямі П. К. Карнакова ўпершыню прапанавана 1 мая 1917 года мастакамі Л. В. Рудневым і П. А. Шылінгоўскім. Яна вельмі дакладна сімвалізуе ідэю рэвалюцыі — саюз рабочых і сялян. З ліпеня 1918 года эмблема атрымала статус дзяржаўнай як малы герб РСФСР і з таго часу з'яўляецца асноўным элементам савецкай дзяржаўнай сімволікі. Чырвоная пяціканцовая "марсава" зорка з'явілася ў перыяд вясны — восені 1918 года як эмблема рэгулярнай Чырвонай Арміі і была прапанавана Ваеннай калегіі па арганізацыі Узброеных Сіл РСФСР першым савецкім камандуючым войскамі Петраградскай ваеннай акругі К. Ерамеевым. Выбар такой зоркі абумоўлены тым, што яна ўяўляе сабой пентаграму — гэта значыць старажытны сімвал абароны, аховы, бяспекі, а чырвоны колер сімвалізуе рэвалюцыйнасць. Гэтыя два сімвалы сімвалізавалі Саветы рабочых, сялянскіх і чырвонаармейскіх дэпутатаў. І хоць з 1937 года яны называліся «Саветы дэпутатаў працоўных», традыцыйную эмблему не мянялі. Менавіта з такім флагам і сустрэла Беларусь трагічную нядзельную раніцу 22 чэрвеня 1941 года, а ўжо 27 чэрвеня немцы захапілі Мінск. Сумесна з немцамі вярнуліся і прадстаўнікі беларускай эміграцыі, якія прынеслі з сабой старыя сімвалы БНР — бела-чырвона-белы флаг і герб "Пагоня". У часопісе «Беларуская школа» за студзень 1942 года, які выдаваўся пры немцах, было надрукавана тлумачэнне колераў беларускага флага (у 1918 годзе гэтага зрабіць не паспелі), згодна з якім чырвоны колер сімвалізуе быццам бы крывічоў — племя, назва якога атрымалася ад слова «кроў», белы колер указвае на неафарбаванае льняное палатно, з якога беларусы шылі для сябе адзенне.

Праз год пасля пачатку акупацыі ў дакуменце, які быў падпісан гаўляйтэрам Беларусі Вільгельмам Кубэ, паведамлялася: «На падставе пададзенай Генеральнаму Камісару прапановы аб зацвярджэнні беларускага нацыянальнага герба «Пагоня» і бела-чырвона-белага флага з прыкладаннем іх малюнка Генеральны Камісар дня 27.7.42 года выдаў распараджэнне, у якім гаворыцца:

§ 1. Я дазваляю ў Генеральным Камісарыяце Беларусі пры розных святкаваннях або для абазначэння беларускай нацыянальнасці побач з нямецкімі сімваламі вывешваць на дамах і насіць беларускія нацыянальныя сімвалы і эмблемы.

§ 2. За нацыянальныя сімвалы і эмблемы беларускія згодна з гэтым распараджэннем прызнаюцца:

а) ...

б) беларускі нацыянальны флаг таксама згодна з прыкладзеным малюнкам;

в) ...

Усе гэтыя сімвалы і эмблемы знаходзяцца пад дзяржаўнай апекай».

Як і на іншых акупіраваных тэрыторыях, у Беларусі немцы садзейнічалі стварэнню пад сваім кантролем ваенізаваных фарміраванняў і розных арганізацый, у тым ліку маладзёжных. Адной з такіх арганізацый, кіраванне якой ажыццяўлялася з Германіі, быў Саюз беларускай моладзі. Аб яго стварэнні было аб'яўлена 22 чэрвеня 1943 года. У пунктах 5 і 6 раздзела 4 Статута гэтай арганізацыі напісана:

«5. Кожны круг мае свой флаг, які захоўвае той кружок, які найлепшым чынам адзначыўся на працягу квартала.

6. Для ўпрыгожвання памяшкання ў час правядзення святаў прымяняецца насценны флаг з эмблемай СБМ уздоўж палотнішча».




*Мал. 38. Дзяржаўны флаг БССР. 1927—1937 гады*




*Мал. 39. Дзяржаўны флаг БССР. 1937—1951 гады*

Захаваліся фотаздымкі (БДА КФФД, інв. № 0—126096, 0—126088), на якіх добра відаць флаг гэтага Саюза. Ён уяўляў сабой бела-чырвона-белае палотнішча з эмблемай Саюза беларускай моладзі ў цэнтры (мал. 40). Былі выпадкі, калі на палотнішчы з'яўляўся і надпіс «Жыве Беларусь!». Трэба адзначыць, што эмблема на флагу некалькі зменена ў параўнанні з зацверджаным узорам — ромб не мае каляровай акантоўкі. Апісанне эмблемы наступнае: «... На бела-чырвона-белым ромбе змешчаны залаты шасціканцовы крыж, які знаходзіцца на шчыце конніка на нацыянальным беларускім гербе «Пагоня»». Зверху крыжа — перакрыжоўваюцца срэбраныя лапата і меч — сімвалы працы і барацьбы за шчасце і дабрабыт беларускага народа і Айчыны. На эмблеме змешчаны чорныя літары арганізацыі СБМ. Увесь значок абведзен бела-чырвона-белым кантам...». Намаляваны на эмблеме крыж з XIV стагоддзя часта сустракаецца на манетах на тэрыторыі Беларусі. Гэтая эмблема была вельмі распаўсюджана сярод славян і літоўцаў. Нядзіўна, што яна становіцца сімвалам беларуска-літоўскіх князёў, эмблемай Вітаўта.

У канцы вайны, калі немцы пачалі заляцаць з насельніцтвам акупіраваных тэрыторый, дазваляючы ім дзяржаўнасць, 22 студзеня 1944 года адбылося канстытуцыйнае пасяджэнне Беларускай Цэнтральнай Рады, а 16 сакавіка БЦР нават пачала фарміраваць сваю армію. Натуральна, што флагам гэтай прывіднай дзяржавы, якой немцы вылучылі толькі трэць тэрыторыі Беларусі, стала бела-чырвона-белае палотнішча. З адступленнем немцаў зніклі і гэты ўрад, і саюзы, і паліцыя.

Акрамя сімволікі і эмблем на акупіраванай тэрыторыі розныя беларускія арганізацыі мелі нарукаўныя павязкі. Паліцыя, напрыклад, насіла белыя павязкі з чорнай нямецкай буквай «Р» або жоўтыя з чорным імперскім арлом і надпісам на нямецкай мове «Памочнік». Бела-чырвона-белыя павязкі з белым, аблямаваным залатым кантам стылізаваным шчытом, які быў рассечаны чырвонай дыяганаллю і меў залаты Ярылаў крыж, насілі члены Саюза беларускай моладзі. Але гэта была маладзёжная арганізацыя, і ў карніцкіх або баявых аперацыях яе члены не ўдзельнічалі. Не выкарыстоўваўся гэтай арганізацыяй і беларускі флаг.

Пасля вызвалення ў рэспубліку зноў вярнуліся сімвалы, зацверджаныя незадоўга да вайны. У хуткім часе «зверху» пачалася новая кампанія па стварэнню больш арыгінальных палотнішчаў дзяржаўных флагаў савецкіх рэспублік. Магчыма, гэта было звязана са стварэннем ААН, дзе акрамя СССР былі прадстаўлены таксама БССР і УССР. На фоне шматколернасці флагаў ушчэрбнасць і бязлікасць савецкіх дзяржаўных палотнішчаў стала асабліва відавочнай.

У 1951 годзе Міхася Кацэра, доктара мастацтвазнаўства, запрасіў да сябе прэзідэнт Акадэміі навук БССР М. І. Грашчанкаў і паведаміў, што Вярхоўны Савет БССР даручыў акадэміі скласці эскіз новага флага БССР і выкананне гэтай работы даручана сектару мастацтва АН. Вырашылі, што трэба ўвесці ў флаг такія дэталі, каб ён адрозніваўся ад флагаў іншых рэспублік, адлюстроўваў нацыянальныя асаблівасці. Пры рабоце над новым флагам праглядваліся старыя гербоўнікі, вывучаліся фонды музеяў. Нарэшце, у закінутым даваенным архіве Белпрамсавета быў знойдзены малюнак арнаментальнага ўзору, які быў вышыты на ручніку сялянкай Матронай Маркевіч з вёскі Касцілішча Ульянаўскага сельскага Савета Сеннінскага раёна. Створаны ён быў у 1917 годзе і называўся «Узыходзячае сонца». Узор для ўпрыгожвання жаночага адзення быў змешчаны ў архіў з мэтай яго магчымага прымянення ў лёгкай прамысловасці як вельмі ўдачны. Пэўна вялікую ролю адыграла пры выбары і яго назва, імпанаваная камуністычнай ідэалогіі. Што азначае гэты ўзор? Ромб у цэнтры — асноўны элемент сімвала ўзыходзячага сонца. Справа і злева фігуры, якія нагадвалі рогі,— сімвал дабрабыту і багацця. У цэнтры ромба — ключ да шчасця. У працэсе абмеркавання ў першапачатковы малюнак былі ўнесены дапаўненні — узор хлеба. Усе апісаныя малюнкі складзены з маленькіх ромбікаў. Элемент прамавугольніка з прымыкаючымі да яго справа і злева меншымі прамавугольнікамі — «вотыўны знак», які гаворыць аб тым, каб усё, што просіць чалавек, збылося. Ён пераклікаецца з рэлігійнай сімволікай.

Выкарыстаўшы апісаны тут узор, мастак Міхась Іванавіч Гусеў стварыў малюнак Дзяржаўнага флага БССР (мал. 41).

У выніку 25 снежня 1951 года з'явіўся Указ Прэзідыума Вярхоўнага Савета БССР «Аб Дзяржаўным флагу Беларускай ССР»:

«1. Унесці змены ў Дзяржаўны флаг Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі і зацвердзіць Дзяржаўны флаг Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі з палотнішча, якое складаецца з двух гарызантальна размешчаных палос: верхняй чырвонага колеру, састаўляючай дзве трэціх шырыні, і ніжняй зялёнага колеру,




*Мал. 40. Флаг «Саюза беларускай моладзі». 1943—1944 гады*



*Мал. 41. Дзяржаўны флаг БССР. 1951—1991 гады*

састаўляючай адну трэць шырыні флага, з відарысам у верхнім левым вугле чырвонай паласы залатых сярпа і молата і над імі чырвонай пяціканцовай зоркі, абрамленай залатым шлякам. Ля дрэўка вертыкальна размешчаны беларускі нацыянальны арнамент белага колеру на чырвоным полі, састаўляючым 1/9 даўжыні флага».

Указу гэтаму форма закона было нададзена толькі 27 сакавіка 1952 года. Што ж датычыцца палажэння аб флагу, то яно было зацверджана Указам Прэзідыума ВС БССР толькі 8 мая 1956 года. Аднак пастановай Савета Міністраў БССР № 778 ад 25 снежня 1956 года зацвярджаецца Інструкцыя па прымяненню ўпамянутага палажэння (БДА ф. 7, воп. 4, адзінк. зах. 600, арк. 161—163), якая растлумачвала, хто дазваляе ў розных выпадках падыманне флагаў або як і дзе вывешваць флагі. Так, на сценах будынкаў яны вывешваюцца на вышыні ад 3 да 4 метраў ад зямлі справага боку будынка ў спецыяльных трымальніках, а на будынках, дзе размяшчаюцца дзяржаўныя органы,— на флагштоках над імі. У час святаў флаг павінен падымацца да надыходу світанку і здымацца па заканчэнні ўрачыстасцей пасля 24 гадзін. Што датычыцца самаходных суднаў, якія плаваюць па ўнутраных рэках і азёрах рэспублікі, дзяржаўны флаг падымаецца на іх у перыяд навігацыі штодзённа з усходам сонца на кармавым флагштоку. На буксірных суднах, якія праводзяць іншыя судны або платы на буксірным ланцугу, ён падымаецца на насавым флагштоку або гафелі. На несамаходных суднах дзяржаўны флаг падымаецца толькі ў святочныя дні.

Малюнак сцяга гарнізонаў міліцыі МВД БССР быў прыняты 9 лістапада 1962 года. Ва указе «Аб прыняцці Чырвонага Сцяга для гарнізонаў савецкай міліцыі» гаварылася, што сцяг мае прамавугольнае палотнішча, абшытае залатой шаўковай махрой. На лепшым баку партрэт В. І. Леніна вышыты цёмна-залацістым шоўкам. Па вярхняму краю вышыты лозунг: «Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся». На адваротным баку ў цэнтры герб БССР. Пад гербам вышыта назва гарнізона міліцыі. Сцяг меў драўлянае лакіраванае дрэўка і шнуры з матузамі.

Што датычыцца флагаў розных арганізацый, то яны зацвярджаліся на больш нізкім узроўні. Найбольшую колькасць флагаў мелі розныя спартыўныя таварыствы. Асабліва бурны рост іх колькасці пачаўся з мая 1936 года пасля рашэння УЦСПС аб стварэнні такіх таварыстваў пры прафсаюзах па галіновай адзнацы. З'явілася іх адразу 64. Якіх толькі не было: харчавікі і будаўнікі, нафтавікі і медыкі, сувязісты і энергетыкі і інш. Усе яны былі агульнасаюзнымі і кожнае мела свой флаг. Аднак пасля вайны ў 1950 годзе колькасць іх вельмі зменшылася. Спорттаварыства «Буравеснік», напрыклад, уключала на той час адразу два дзесяткі таварыстваў, якія існавалі ў 1936 годзе. У гэтым жа годзе пастановай СМ БССР і ЦК КП(б) Беларусі № 1444 прымаецца статут добраахвотнага спартыўнага таварыства Беларускай ССР «Калгаснік». У пункце 60 статута запісана, што яно мае сваю эмблему і флаг. Эмблема ўяўляе сабой ромб з буквай «К» і коласам. Што датычыцца флага, то знайсці яго не ўдалося. Праіснавала спорттаварыства «Калгаснік» нядоўга. У 1956 годзе яно ўвайшло ва ўтворанае ў гэты ж год сельскае спорттаварыства «Ураджай». Гэта новае таварыства мела свой флаг, створаны па адной




*Мал. 42. Флаг ДССТ «Ураджай». 1956—1985 гады*

схеме з флагамі расійскага «Ураджаю». Ён уяўляў сабой сіняе палотнішча з жоўтай хвалявіднай паласой з калоссямі ўздоўж ніжняга пруга (мал. 42). У верхнім вугле ля дрэўка змяшчалася эмблема таварыства, якая складалася з флага БССР, снапа жыта, шасцяронкі — звычайнага набору элементаў сацыялістычнай сімволікі. Што датычыцца прамысловых прафсаюзаў, то на падставе пастановы Прэзідыума УЦСПС ад 30 кастрычніка 1957 года і ў адпаведнасці з пастановай Белсаўпрофа ад 29 лістапада 1957 года на базе скасавання галіновых ДСТ «Буравеснік», «Харчавік», «Будаўнік», «Чырвоная зорка», «Энергія», «Тарпеда» і «Чырвоны сцяг» было створана тэрытарыяльнае добраахвотнае спартыўнае таварыства прафсаюзаў БССР «Чырвоны сцяг», якое атрымала ў спадчыну не толькі назву былога спорттаварыства тэкстыльшчыкаў, але і яго флаг — чырвонае палотнішча з белым кругам ля дрэўка, у якім намаляваны Чырвоны сцяг з белымі буквамі «ДСТ» (мал. 43). Аднак 1 жніўня 1985 года пачаліся новыя пераўтварэнні. Усе прафсаюзныя спартыўныя таварыствы ў СССР перасталі існаваць і было створана адзінае добраахвотнае прафсаюзнае фізкультурна-спартыўнае таварыства СССР, якое атрымала ў хуткім часе сіне-бела-чырвоны флаг з эмблемай аранжавага колеру ў цэнтры. Вось так — ад 64 да 1! Усё гэта не тычылася такіх спартыўных арганізацый, як «Дынама», СКА, але мы не ўспамінаем тут аб іх флагах, так як яны былі заўсёды адзінымі па ўсяму Саюзу.

У БССР існавалі і іншыя арганізацыі, якія мелі свае флагі, але так, як яны існуюць і сёння і карыстаюцца той жа сімволікай, то мы раскажам аб іх у наступнай главе.




*Мал. 43. Флаг ДСТ «Чырвоны Сцяг». 1957—1985 гады*

# Глава 3

## ФЛАГІ БЕЛАРУСІ СЁННЯ

Сімволіка нашай рэспублікі сёння толькі фарміруецца. Да канца 1993 года не было флагаў і сцягаў Узброеных Сіл, МУС, пагранвойск, авіяцыі, спартыўных таварыстваў і г. д. У гэтай главе мы раскажам аб флагах, якімі да гэтага часу ўжо карысталіся.

**Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь** (мал. 44). Пасля 1986 года імкліва расце нацыянальная самасвядомасць народаў, невяліраваная за дзесяцігоддзі будаўніцтва сацыялізму. У Беларусі выразнікам гэтага руху стаў Беларускі народны фронт (БНФ). Менавіта БНФ выкарыстаў старую беларускую сімволіку — бела-чырвона-белы флаг і герб «Пагоня» ў час святкавання «Дзядоў» 30 кастрычніка 1988 года. Масавае ж прымяненне гэтых сімвалаў адбылося ў час мітынгу БНФ на мінскім стадыёне «Дынама» 19 лютага 1989 года. Дыскусія, якая разгарнулася ў друку пасля гэтага мітынгу, паказала, што ні тыя, хто прымяніў старую сімволіку, ні тыя, хто выступіў супраць яе, не ведалі гісторыю флагаў. Але выбар быў зроблены. Да 1990 года бела-чырвона-белае палотнішча стала сімвалам усіх тых, хто выступаў супраць камуністычнай дыктатуры, якая дзесяцігоддзі панавала ў краіне. Усе мерапрыемствы, якія неафіцыйна праводзіліся ў рэспубліцы, паднімалі бела-чырвона-белае палотнішча. Афіцыйным органам нічога не заставалася, як далучыцца да народнага выбару. Так, у другой палове верасня 1990 года Мінскі гарсавет прымае рашэнне «Аб беларускай нацыянальнай сімволіцы і яе выкарыстанні ў Мінску», згодна з якім дазвалялася карыстацца на тэрыторыі сталіцы бела-чырвона-белым флагам разам з Дзяржаўным флагам БССР. У хуткім часе над будынкам гарсавета сталі развівацца два флагі — дзяржаўны і нацыянальны, замацаваны на дадатковым флагштоку. А ў самым канцы 1990 года такое рашэнне было прынята і гарсаветам г. Радашковічы.

Рэакцыйны путч у Маскве ў чэрвені 1991 года, які падтрымала КПБ, паскорыў падзеі. І калі Расія змяніла свой флаг у час гэтага путчу, то Беларусь у хуткім часе пасля яго. Дыскусія з прычыны дзяржаўнага флага разгарнулася на 6-ай пазачарговай сесіі Вярхоўнага Савета 19 верасня 1991 года пры абмеркаванні пытання «Аб назве, Дзяржаўным гербу і Дзяржаўным флагу Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі». Яшчэ у час дзённага перапынку народны дэпутат БССР касманаўт В. Кавалёнак выйшаў на пл. Леніна, дзе, як звычайна для таго часу, знаходзіліся пікетчыкі, узяў у іх бела-чырвона-белы флаг і ў акружэнні сваіх аднадумцаў вярнуўся ў будынак Дома ўрада. У зале пасяджэнняў Вярхоўнага Савета ён устанавіў яго побач з Дзяржаўным флагам. Пасля перапынку пачаўся разгляд пытання. Н. С. Гілевіч прапанаваў вярнуць гістарычную сімволіку. Большасць падтрымала яго, але былі і дэпутаты, якія выступілі супраць гэтага. Пасля дыскусіі ў 17 гадзін 20 хвілін закон быў прыняты. Вось яго тэкст:

«ЗАКОН
«Аб Дзяржаўным флагу Рэспублікі Беларусь»

Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь пастанаўляе:

1. Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь уяўляе сабой палотнішча, якое складаецца з трох гарызантальна размешчаных каляровых палос роўнай шырыні: верхняй і ніжняй белага, а сярэдняй — чырвонага колеру. Адносіны шырыні флага да яго даўжыні — 1 : 2.

2. Даручыць Савету Міністраў Рэспублікі Беларусь прадставіць Вярхоўнаму Савету Рэспублікі Беларусь прапановы аб прывядзенні заканадаўчых актаў рэспублікі ў адпаведнасць з законам «Аб Дзяржаўным флагу Рэспублікі Беларусь» і прывесці нарматыўныя акты Урада ў адпаведнасць з гэтым законам.

3. Даручыць камісіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь па адукацыі, культуры і захаванню гістарычнай спадчыны, па нацыянальнай палітыцы і міжнародных адносінах, па заканадаўству распрацаваць праект Палажэння аб Дзяржаўным флагу Рэспублікі Беларусь і ўнесці яго на разгляд сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь.

4. Гэты закон уступае ў дзеянне з моманту яго прыняцця».

Дэпутаты вырашылі на наступны дзень падняць новы дзяржаўны флаг над будынкам Дома ўрада, але прыйшоўшы раніцой 20 верасня 1991 года на



*Мал. 44. Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь*



*Мал. 45. Наверша дрэўка флагаў і сцягаў у Рэспубліцы Беларусь*

чарговае пасяджэнне ўбачылі на флагштоку новы бела-чырвона-белы флаг. Аказалася, што пасля заканчэння вячэрняга пасяджэння адзін з чыноўнікаў спешна распарадзіўся замяніць стары флаг на толькі што прыняты, чым сарваў намечаную ўрачыстасць. Апраўдваўся ён адсутнасцю распараджэння аб урачыстым падняцці. 4 кастрычніка 1991 года была створана спецыяльная камісія пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета для распрацоўкі і зацвярджэння дзяржаўнай сімволікі, атрыбутыкі і адпаведных дакументаў, куды ўвайшло больш за 20 чалавек. Так як па малюнку палотнішча флага ніякіх пытанняў узнікнуць не магло, то ўдакладняўся колер чырвонай паласы, які вырашылі зрабіць адзіным з колерам гербавага шчыта, а таксама скульптар Леў Талбузін займаўся распрацоўкай наверша флага (мал. 45). Штодзённа кожны распрацаваны варыянт разглядаўся на камісіі. Урэшце 11 снежня 1991 года пастановай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь тэкст гэтага палажэння быў зацверджаны.

«ПАЛАЖЭННЕ
«Аб Дзяржаўным флагу Рэспублікі Беларусь»

1.Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь з'яўляецца сімвалам дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, уяўляе сабой прамавугольное палотнішча, якое складаецца з трох гарызантальна размешчаных каляровых палос роўнай шырыні: верхняй і ніжняй — белага, а сярэдней — чырвонага колеру. Адносіны шырыні і даўжыні флага — 1 : 2. Флаг мацуецца на дрэўку (флагштоку), якое фарбуецца ў залацісты (охра) колер.

Пры цырымоніях і іншых мерапрыемствах урачыстасці Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь выкарыстоўваецца з навершам ромбападобнай формы з відарысам крыжа, аналагічным крыжу на Дзяржаўным гербе Рэспублікі Беларусь. Навершы вырабляюцца з металу жоўтага колеру.

2. Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь узнімаецца:

над будынкам Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — пастаянна, а таксама над будынкам, дзе праводзіцца сесія Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь — на перыяд работы сесіі;

над будынкамі Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь — пастаянна;

над будынкамі мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь і іх выканаўчых і распарадчых органаў — пастаянна, а таксама над будынкамі, дзе праводзяцца пасяджэнні мясцовых Саветаў народных дэпутатў і іх выканаўчых органаў — на час правядзення пасяджэнняў;

над будынкамі міністэрстваў, дзяржаўных камітэтаў і ведамстваў, дзяржаўных і грамадскіх прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, а таксама на жылых пабудовах у вызначаныя заканадаўствам Рэспублікі Беларусь святочныя і памятныя дні;

на будынках і сродках перамяшчэння дыпламатычных і консульскіх прадстаўніцтваў, а таксама на будынках гандлёвых устаноў Рэспублікі Беларусь, якія знаходзяцца за мяжой, на марскіх суднах і іншых сродках перамяшчэння, на якіх у якасці афіцыйных асоб знаходзяцца Старшыня Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Старшыня Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ці іншыя асобы, што прадстаўляюць Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь або Савет Міністраў Рэспублікі Беларусь — у парадку, які зацверджваецца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь;

на памяшканнях для галасавання — у дні выбараў і рэферэндумаў;

у вайсковых часцях Рэспублікі Беларусь згодна з вайсковымі статутамі;

на пагранічных заставах і прапускных пунктах (мытнях) Дзяржаўнай граніцы Рэспублікі Беларусь;

на марскіх суднах, якія з'яўляюцца ўласнасцю Рэспублікі Беларусь, суднах рачнога флоту Рэспублікі Беларусь;

на спартыўных арэнах — у час правядзення чэмпіянатаў і першынстваў Рэспублікі Беларусь, міжнародных спартыўных спаборніцтваў з удзелам нацыянальных зборных і ў час узнагароджання беларускіх спартсменаў — пераможцаў міжнародных спаборніцтваў;

на іншых аб'ектах па рашэнню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь ці мясцовых Саветаў народных дэпутатаў і іх выканаўчых і распарадчых органаў.

Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь можа быць узняты таксама пры цырыманіялах і іншых урачыстых мерапрыемствах, якія праводзяцца дзяржаўнымі і грамадскімі органамі, прадпрыемствамі, установамі і арганізацыямі, у час народных, працоўных і сямейных святаў і ў іншыя памятныя дні.

3. Пры адначасовым узняцці Дзяржаўнага флага Рэспублікі Беларусь і флагаў іншых дзяржаў, дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь павінен быць узняты з левага боку, а флагі іншых дзяржаў — з правага, калі стаць тварам да фасаду або флагштоку. Флагі дзяржаў размешчаюцца ў алфавітным парадку.

Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь размяшчаецца на адным узроўні з флагамі іншых дзяржаў.

Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь на транспартных сродках (за выключэннем суднаў) размяшчаецца з левага боку ў напрамку руху, а з правага боку — флаг іншай дзяржавы.

4. Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь размяшчаецца ў памяшканнях пасяджэнняў Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Прэзідыума Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь, Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь і іх выканаўчых і распарадчых органаў, а таксама ў службовых кабінетах старшынь Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь, старшынь мясцовых Саветаў народных дэпутатаў Рэспублікі Беларусь і пакоях, дзе адбываецца пастаянны прыём выбаршчыкаў народнымі дэпутатамі Рэспублікі Беларусь.

5. У час жалобы па рашэнню Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь або Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь можа быць узняты ў жалобным афармленні. У гэтым выпадку да дрэўка (флагштока) флага прымацоўваецца лента чорнага колеру, канцы якой павінны звісаць да ніжняй часткі флага.

Пры падняцці флага на флагштоку ў час жалобы флаг прыспускаецца на 1/3 даўжыні флагштока.

6. Відарыс Дзяржаўнага флага Рэспублікі Беларусь абавязкова змяшчаецца на паветраных суднах, зарэгістраваных у Рэспубліцы Беларусь.

7. Выява Дзяржаўнага флага Рэспублікі Беларусь можа быць выкарыстана ў дэкаратыўных мэтах у якасці дзяржаўнага і нацыянальнага сімвала такім чынам, каб пры гэтым не была праяўлена непавага да Дзяржаўнага флага Рэспублікі Беларусь.

8. Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь і яго выява незалежна ад іх памеру заўсёды павінны дакладна адпавядаць каляроваму эталону і схематычнаай выяве, якія прыкладаюцца да гэтага Палажэння.

9. Асобы, якія вінаваты ў зганьбаванні Дзяржаўнага флага Рэспублікі Беларусь, нясуць адказнасць у адпаведнасці з заканадаўствам Рэспублікі Беларусь.

10. Правілы прымянення гэтага Палажэння і парадак вырабу Дзяржаўнага флага Рэспублікі Беларусь вызначаюцца Саветам Міністраў Рэспублікі Беларусь».

**Флаг мытных органаў і іх суднаў** (мал. 46) — адзін са старэйшых атрыбутаў дзяржавы. У Расійскай Імперыі ён упершыню з'явіўся ў 1827 годзе і ўяўляў сабой светла-зялёнае палотнішча з белым касым Андрэеўскім крыжам. Да канца XIX стагоддзя сталі ўжываць флагі з выявай перакрыжаваных кадуцыеў — жэзлаў Гермеса (Меркурыя).

У Беларусі жэзл Гермеса быў вядомы да XVIII стагоддзя пад назвай «крывула». Ён гарантаваў вястуну недатыкальнасць (натуральна адносную). У Старажытным Рыме кадуцый (а гэта слова лацінскае) упершыню стаў выкарыстоўвацца і як сімвал гандлю, але ўжо ўпрыгожаны дзвюма змеямі, якія гаварылі аб мудрасці і абароне. Сваё шырокае прызнанне ў свеце як міжнародны сімвал гандлю ён атрымаў на рубяжы XVIII—XIX стагоддзяў. Кадуцый быў і на мытных флагах СССР амаль да 1991 года, калі яго паспрабавалі замяніць іншай эмблемай. Распрацоўка флага мытных органаў і іх суднаў у Рэспубліцы Беларусь пачалася пасля ўвядзення новага дзяржаўнага флага краіны. У жніўні 1992 года ўзор флага быў адобраны на пасяджэнні Камісіі па забеспячэнню адзінай палітыкі выкарыстання дзяржаўных сімвалаў пры Прэзідыуме Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь. Ён уяўляе сабой Дзяржаўны флаг рэспублікі, які мае ў правым ніжнім вуглу эмблему мытных органаў — стылізаваны шчыт з надпісам «Беларусь» размерам у адну трэць шырыні флага. Камісіяй было прапанавана дапрацаваць флаг да 20 верасня 1992 года і прадставіць на чарговае пасяджэнне Камісіі. 3 лютага 1993 года ўводзіцца мытны кодэкс Рэспублікі Беларусь, дзе маецца Дапаўненне наступнага зместу:

«Апісанне флага мытных органаў Рэспублікі Беларусь і рачных суднаў, якія знаходзяцца ў іх распараджэнні.

Флаг мытных органаў Рэспублікі Беларусь, рачных суднаў, якія знаходзяцца ў іх распараджэнні, уяўляе сабой Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь, які мае ў правым ніжнім вуглу на адлегласці адной восьмай ад ніжняга краю і адной шостай ад вонкавага краю флага эмблему мытных органаў рэспублікі Беларусь размерам у адну пятую шырыні флага.

Эмблема мытных органаў Рэспублікі Беларусь уяўляе сабой адлюстраванне Герба Рэспублікі Беларусь, перыметр якога абрамлен паласой зялёнага колеру з надпісам буквамі белага колеру «Беларусь» і «Дзяржаўная мытная служба».

Мытны кодэкс пачаў дзейнічаць у рэспубліцы з 1 чэрвеня 1993 года».



*Мал. 46.*
*Флаг мытных органаў і іх суднаў Рэспублікі Беларусь*

**Вымпел суднаў Беларускага рачного параходства.** Да рэвалюцыі многія параходствы імперыі і параходныя кампаніі мелі свае флагі і вымпелы, якія ствараліся ў асноўным на падставе дзяржаўнага флага Расіі. Першы такі флаг з'явіўся яшчэ ў 1806 годзе. Гэта традыцыя захавалася і пасля рэвалюцыі. Першыя некалькі вымпелаў марскіх параходстваў з'яўляюцца пасля заканчэння грамадзянскай вайны, а ў 1932 годзе атрымліваюць і ўсе рачныя параходствы СССР. Дняпро-Дзвінскае ў БССР мела белае трохвугольнае палотнішча з чырвоным ромбам. Адносіны шырыні да даўжыні 1 : 2 (мал. 47). Размяшчацца вымпел павінен быў на носе судна. Яго размер 1120х2250 мм. Але існавала такое ж палотнішча меньшага размеру — 720х1400 мм, якое выкарыстоўвалася як брэйд-вымпел службовай асобы. Ён падымаўся на мачце ў час знаходжання на судне начальніка параходства або яго намеснікаў.

Вымпел параходства, штаб-кватэра якога знаходзіцца ў г. Гомелі, ніколі не мяняўся. Аднак мяняліся назвы параходства: у пачатку яно называлася Дняпро-Дзвінскім, затым Верхне-Дняпроўскім і Беларускім рачным. Судны рачнога параходства пасля 19 верасня 1991 года нясуць на кармавым флагштоку Дзяржаўны флаг Рэспублікі Беларусь, з якім вельмі ўдачна пераклікаецца па сваёй каляровай гаме створаны ў трыццатыя гады вымпел.



*Мал. 47. Вымпел суднаў Беларускага рачнога параходства*

**Флаг Таварыства Чырвонага Крыжа Рэспублікі Беларусь.** Флаг Таварыства Чырвонага Крыжа быў створаны ў 1864 годзе ў Швейцарыі пасля заснавання ў 1863 годзе Міжнароднага таварыства Чырвонага Крыжа. Эмблема была зацверджана Жэнеўскай канвенцыяй і ўяўляла сабой чырвоны роўнаканцовы шырокі плаваючы крыж на белым полі, адваротны па свайму колеру беламу гельветычнаму крыжу на чырвоным полі — афіцыйнай

эмблеме Швейцарскай канфедэрацыі. Мэтай таварыства была арганізацыя дапамогі раненым і хворым у час вайны.

У Расіі эмблема Чырвонага Крыжа ўведзена 3 мая 1867 года, а ў Беларусі — 11 лютага 1925 года пасля таго, як Саўнаркам зацвердзіў Статут Беларускага таварыства Чырвонага Крыжа. У § 8 раздела II гэтага статута гаворыцца: «Адметным знакам таварыства з'яўляецца роўнаканцовы чырвоны крыж на белым фоне па ўзору, які быў уведзен Жэнеўскай канвенцыяй 26 жніўня 1864 года» (мал. 48). Гэты знак размяшчаўся на флагах, якія вывешваліся на лазарэтах, гаспіталях, транспартах, складах і іншых установах таварыства. У СССР з 1925 па 1991 год існаваў флаг Чырвогана Крыжа і Чырвонага Паўмесяца. Апошні ўказваў на наяўнасць у краіне вялікай колькасці мусульман.




*Мал. 49.*
*Флаг Таварыства выратавання на водах Рэспублікі Беларусь*



*Мал. 48.*
*Флаг Беларускага Таварыства Чырвонага Крыжа*

**Флаг Таварыства выратавання на водах Рэспублікі Беларусь** (ТВВОД). Таварыства выратавання на водах было арганізавана ў Беларусі больш стагоддзя назад, калі ў Расійскай Імперыі па ініцыятыве маракоў і па прыкладу ўжо існаваўшых таварыстваў у Англіі, Даніі, Францыі, Германіі і іншых краінах 3 жніўня 1871 года было створана «Таварыства падання дапамогі пры караблекрушэннях». Задачай яго было выратаванне гінуўшых на моры, а таксама на рэках і азёрах. У 1880 годзе таварыства атрымала іншую назву — «Таварыства выратавання на водах», што больш выражала яго мэты. Менш чым праз год 25 красавіка 1872 года праўленне таварыства звяртаецца да Віцебскага губернатара з просьбай спрыяць яго дзейнасці на тэрыторыі губерні. У 1873 годзе ствараюцца аддзелы спачатку ў Віцебску, затым у Дзвінску, а ў 1901 годзе — у Полацку, Дрысе, Веліжы. Усе яны выкарысталі флаг стаўшага ў 1894 годзе імператарскім Расійскага таварыства выратавання на водах. Уяўляў ён сабой палотнішча з вісячым чырвоным крыжам (гэта значыць флаг Таварыства Чырвонага Крыжа), пад якім знаходзіліся сінія скрыжаваныя адміралцейскія якары. У цэнтры крыжа размяшчалася залатая імператарская карона. Якога-небудзь спецыяльнага флага для беларускай Віцебскай акругі таварыства не існавала, як і не існавала асобага флага ТВВОД рэспублікі ў першыя гады існавання БССР. Меліся толькі саюзныя сімвалы, напрыклад, белы трохвугольны вымпел СаюзТВВОДа з сінім вуглом для суднаў таварыства. Так было да пачатку сямідзесятых гадоў XX стагоддзя, калі свае сімвалы ўвяло ТВВОД РСФСР. Па яго прыкладу 27 красавіка 1970 года пастановай з'езда Беларускага таварыства выратавання на водах быў уведзены статут, а разам з ім і флаг ТВВОД БССР. Творцы флага не імкнуліся следаваць якому-небудзь узору і таму флаг выйшаў арыгінальным і прыгожым. Ён уяўляў сабой бела-блакітнае палотнішча з адносінамі шырыні да даўжыні 1 : 2, у цэнтры якога размешчана эмблема ТВВОД БССР — бела-чырвоны выратавальны круг з сінім якарам і чырвоным крыжам. На выратавальным крузе змешчана назва таварыства (мал. 49). Аднак быў выраблен і прымяняецца яшчэ і варыянт флага, які некалькі адрозніваецца ад афіцыйна зацверджанага, дзе эмблема размешчана не ў цэнтры, а на белай паласе на 1/3 даўжыні флага ад дрэўка (мал. 50). Трэба сказаць, што выратавальны круг вельмі распаўсюджаны сімвал выратавальнікаў. Ён змешчаны на флагах падобных таварыстваў ФРГ, Расіі іншых краін. Выратавальны круг змяшчаўся на флагу суднаў ЭПРОНа, які з'яўляўся першай аварыйна-выратавальнай службай ВМФ СССР. Цяпер разглядаецца пытанне і аб распрацоўцы флага дзяржаўнай водна-выратавальнай службы нашай рэспублікі.




*Мал. 50. Варыянт флага ТВВОД Беларусі*

**Флаг Беларускага Добраахвотнага пажарнага таварыства** (мал. 51). У Расійскай Імперыі першая прафесійная пажарная каманда была створана Пятром Вялікім у Пецярбургу. Добраахвотныя дружыны з'яўляюцца ў сярэдзіне XIX стагоддзя. Членаў гэтых дружын называлі тады пажарнымі паляўнічымі. У 1882 годзе ў маёнтку графа Шэрэмецьева пад Масквой у сувязі з адкрыццём пажарна-тэхнічнай выставы сабраліся прадстаўнікі добраахвотных пажарных таварыстваў, якія і вырашылі стварыць Усерасійскае пажарнае таварыства. У хуткім часе яно стала імператарскім. Таварыства мела свае сцягі, індывідуальныя для кожнага аддзялення. Прыкладам гэтага можа служыць сцяг Гразавецкага пажарнага таварыства Валагодскай губерні, якое мела бела-сіне-чырвонае палотнішча з гербамі губерні і ўезда ў цэнтры і з малюнкам пажарных каскі і кіркі па вуглах. У хуткім часе сталі з'яўляцца таварыствы і на тэрыторыі Беларусі. Да пачатку XX стагоддзя існавала такое і ў Мінску. Права на сцяг агаворвалася ў статуце. Так, 11 мая 1905 года прымаецца статут Іванаўскага вольнага пажарнага таварыства, дзе ў § 3 запісана: «Таварыства можа мець сцяг з выявай назвы таварыства па малюнку, устаноўленаму губернатарам. Сцяг захоўваецца ў памяшканні праўлення або прадстаўніка пажарнага таварыства і выносіцца толькі ў выпадку аглядаў і парадаў». Існавалі ДПТ і ў іншых гарадах Беларусі. У савецкі час таварыства працягвала функцыяніраваць, але было агульнасаюзным. Толькі ў 1956 годзе яно з'явілася ў рэспубліцы, а 13 красавіка 1972 года прымаецца статут Беларускага добраахвотнага пажарнага таварыства, дзе ў пункце 7 раздзела II гаворыцца аб існаванні флага. Яго апісанне: «Флаг Беларускага добраахвотнага пажарнага таварыства мае форму прамавугольніка з размерамі бакоў 0,9 м на 1,8 м. З верхняга правага вугла да ніжняй лініі флага ідзе зялёная паласа шырынёй 0,82 м з белымі палоскамі па краях. У цэнтры зялёнай паласы выява эмблемы БДПТ. Эмблема ўпісваецца ў акружнасць дыяметрам 0,45 м. На абодвух баках зялёнай паласы праходзяць дзве белыя палоскі шырынёй 0,04 м кожная. Правая белая палоска вонкавым бокам пачынаецца з правага верхняга вугла флага, левая палоска вонкавым бокам заканчваецца ў левым ніжнім вугле флага. Агульная шырыня зялёнай паласы з дзвюма белымі палоскамі — 0,9 м. Астатнія часткі флага чырвонага колеру. Флаг мацуецца да дрэўка левым бокам».

**Флаг Абароннага спартыўна-тэхнічнага таварыства Рэспублікі Беларусь** (мал. 52). Пасля кастрычніцкіх падзей 1917 года савецкім урадам была ўзята арыентацыя на татальную ваенную падрыхтоўку насельніцтва Савецкай Рэспублікі. Ужо ў 1923 годзе ствараецца Таварыства сяброў паветранага флоту (ТСПФ), якое мела просты чырвоны флаг с эмблемай таварыства ў вугле ля дрэўка. Праз год ствараецца Дабрахім. У хуткім часе Дабрахім аб'ядноўваецца з ТСПФ — з'яўляецца арганізацыя Авіяхім. Яе флаг чырвонае палотнішча з пралетарскім лозунгам і відарысам балонаў і самалётаў у сінім квадратным кантоне. Акрамя гэтага таварыства існавала яшчэ тры падобныя арганізацыі. На іх базе ў 1927 годзе быў створаны знакаміты Саюз таварыстваў садзейнічання абароне і авіяхімічнай прамысловасці — Асавіяхім СССР. Яго флаг чырвоны з жоўтымі лозунгам і назвай таварыства, а таксама эмблемай у верхнім вугле ля дрэўка. Заслуга Асавіяхіма ў падрыхтоўцы будучых лётчыкаў і парашутыстаў у СССР бясспрэчна. На яго была ўскладзена і арганізацыя ў час вайны дапамогі насельніцтва сродкам ППА. Для суднаў Асавіяхіма ў 1940 годзе ствараецца сінебела-сіні флаг з зоркай на чорным якары ў цэнтры. У Беларусі з 1925 па 1948 год дзейнічаў свой Цэнтральны савет Асавіяхіма БССР. Аднак выявіць наяўнасць флага гэтага таварыства не ўдалося і, мяркуючы па дакументах, яно выкарыстоўвала агульнасаюзныя сімвалы. Пасля Вялікай Айчыннай вайны саюз падзяліўся на тры таварыствы са сваімі флагамі. ДТСАРМ — малінавае палотнішча з лентай ордэна чырвонага сцяга і эмблемай таварыства ў верхнім вугле; ДТСАВІЯ — чырвонае палотнішча з флагам ВПС у трохвугольніку і эмблемай; ДТСФЛОТ — блакітнае палотнішча, рассечанае блакітным Андрэеўскім крыжам на белай падкладцы з эмблемай у цэнтры. Аднак вопыт быў прызнаны няўдачным і ў жніўні 1951 года з'яўляецца ўсім памятнае ДТСААФ — Добраахвотнае таварыства садзейнічання арміі, авіяцыі і флоту. Флагам яго з 1952 года было чырвонае палотнішча з лентай ордэна Чырвонага Сцяга і эмблемай у верхнім вугле ля дрэўка. Таварыства выконвала вялікую работу па навучанню моладзі некаторым тэхнічным спецыяльнасцям. У 1992 годзе ДТСААФ пачало адраджацца ў рэспубліцы пад назвай АСТТ — Абароннае спартыўна-тэхнічнае таварыства. Устаноўчы з'езд АСТТ Рэспублікі Беларусь




*Мал. 51.*
*Флаг Беларускага добраахвотнага пажарнага таварыства*




*Мал. 52. Флаг Абарончага спартыўна-тэхнічнага таварыства Рэспублікі Беларусь*

адбыўся ў сакавіку 1993 года. Да з'езда была падрыхтавана і новая сімволіка, распрацаваная мастаком Іванам Аляксеевічам Сідаровічам. Але канчатковы варыянт з'явіўся не адразу — было некалькі праектаў. На IX з'ездзе АСТТ 24 сакавіка 1993 года быў зацверджан наступны варыянт: «Флаг Абарончага спартыўна-тэхнічнага таварыства Рэспублікі Беларусь складаецца з палотнішча блакітнага колеру, якое мае форму прамавугольніка з адносінамі даўжыні да шырыні 3 : 2. У верхняй частцы палотнішча на ўсю яго даўжыню размешчана лента флага Рэспублікі Беларусь (1/4 вышыні палотнішча). У цэнтры на блакітным фоне напісаны сінім колерам буквы «АСТТ», акайманыя па контуру белым колерам (памер букваў — 1/3 блакітнага палотнішча). Тыльны бок без букваў АСТТ».

**Флаг Беларускага згуртавання татараў-мусульман «Аль-Кетаб».** Мангольскаму нашэсцю цяперашняя тырэторыя Беларусі не падвяргалася. Татары з'явіліся як найміты літоўскага вялікага князя. Ужо ў 1319 годзе яны прымалі ўдзел у вайне Літвы з крыжаносцамі. У 1394 годзе, хаваючыся ад праследаванняў Цімура Тамерлана, прыйшоў са сваёй дружынай золатаардынскі хан Тахтамыш — пераемнік Мамая. Пасяліліся яны ў Лідзе. У 1397 годзе пасля паходу Вітаўта і Тахтамыша на Азоў у Лідскім, Ашмянскім і Навагрудскім паветах было заселена шмат ваеннапалонных татараў. У 1410 годзе ў Грунвальдскай бітве ўдзельнічалі і прысланыя з Залатой Арды татарскія атрады на чале з сынам Тахтамыша Джэлал-ат-Дзінам, якому Вітаўт дапамог звергнуць Цімур-хана і заняць трон. Частка гэтых татараў таксама пасялілася ў Беларусі. У 1506 годзе пасля перамогі над татарамі на р. Лань пад Клецкам значная частка палонных была паселена ў Клецку і Мінску, дзе яшчэ ў XX стагоддзі існавала татарская слабада. У 1990 годзе было створана грамадска-культурнае аб'яднанне татараў «Аль-Кетаб». Яно прыняло свой флаг такім, якім ён быў апісан у аль-кетабе, дзе расказвалася аб Грунвальдскай бітве,— бела-чырвона-белае палотнішча з белымі паўмесяцам і пяціканцовай зоркай на чырвонай паласе ля дрэўка (мал. 53). Адносіны шырыні і даўжыні палотнішча 1 : 2. Шырыня палос аднолькавая. Што датычыцца сімвалаў, то паўмесяц — гэта распаўсюджаны азіяцкі сімвал язычніцкага культа луны, які стаў эмблемай іслама. Звязана гэта з тым, што 16 ліпеня 622 года ў дзень зыхода прарока Мухамеда з Мекі ў Месіну — вялікі дзень для мусульман, Луна нагадвала паўмесяц, павернуты ўправа, і яе выява стала свяшчэнным сімвалам прыхільнікаў гэтай рэлігіі. Акрамя таго, у гэтым знаку мусульмане бачылі адбітак капыта баявого каня, на якім прарок Мухамед узнёсся на нябёсы. Сімвал быў шырока распаўсюджаны і пастаянна выкарыстоўваўся ў сярэднія вякі на сцягах, асабліва ў Турцыі, але ў асноўным без трацыцыйнай цяпер зоркі. Зорка — сімвал ранішняй зоркі Аль-Тарэк — мае пяць прамянёў, але іх колькасці ў ісламе значэння не прыдаецца і іх можа быць любая лічба. На ўрачыстых сходах «Аль-Кетаба» выкарыстоўваюцца тры флагі: Дзяржаўны флаг РБ, зялёны з паўмесяцам і зоркай мусульманскі і ўпамянуты раней флаг арганізацыі. 6 ліпеня 1993 года «Аль-Кетаб» афіцыйна зарэгістравана. У статуце запісана, што яно можа мець свой флаг.

**Флагі ятвягаў.** Гэта група заходнебалтскіх плямёнаў на рубяжы першага і другога тысячагоддзяў насяляла тэрыторыю паміж рэкамі Нёман і Нараў. Яны вялі барацьбу супраць рускіх і польскіх князёў, а з сярэдзіны XIII стагоддзя — і супраць крыжаносцаў. Часткова былі знішчаны крыжаносцамі, а землі ятвягаў увайшлі ў склад Вялікага княства Літоўскага. Пасля разгрому ятвягаў князем Вітаўтам у Аўгустаўскіх лясах яны пакінулі свае тэрыторыі і пасяліліся ўздоўж ракі Сож, дзе цяпер і пражываюць. У апошні час пачаў складвацца нацыянальны рух ятвягаў, ад якога нядаўна аддзяліўся рух младаятвягаў, які ўзначальвае Шэлятовіч. Ятвягі, якія не пажадалі прымкнуць да младаятвягаў, сталі называцца стараятвягамі і прытрымлівацца гістарычна склаўшыхся напрамкаў і традыцый беларусаў. Флагам стараятвягаў з'яўляецца палотнішча з трох гарызонтальных палос: белай, сіняй і белай (мал. 54), што асацыіруецца з ракой Сож. Младаятвягі выкарыстоўваюць у сваім флагу ўкраінскія блакітную (верхняя) і жоўтую (сярэдняя) палосы, якія дапоўнены зялёнай, сімвалізуючай бульбаўцаў (мал. 55). Пэўна неабходна растлумачыць, хто такія бульбаўцы. У 1941 годзе ў першыя месяцы акупацыі Украіны фашысцкімі войскамі ў Роўна з'явіўся Тарас Баравец і прапанаваў немцам арганізаваць з жыхароў Палесся атрады ўкраінскіх нацыяналістаў. Сам ён узяў псеўданім "Тарас Бульба". Адсюль яго падначаленыя сталі бульбаўцамі. Да вясны 1942 года яны дзейнічалі сумесна з нямецкімі войскамі. Але, нягледзячы на гэта, немцы прапанавалі ім раззброіцца. Баравец вельмі пакрыўдзіўся і пайшоў са сваімі людзьмі ў лес, павярнуўшы зброю супраць нямецкіх



*Мал. 53. Флаг Беларускага згуртавання татараў-мусульман «Аль-Кетаб»*



*Мал. 54. Флаг стараятвягаў*



*Мал. 55. Флаг младаятвягаў*

войскаў. Быў час, калі бульбаўцы дзейнічалі сумесна з савецкімі партызанамі і набылі папулярнасць у мясцовых жыхароў. Аднак у канцы вайны яны пасварыліся і зноў выступілі супраць савецкай улады.

Многія нацыянальныя арганізацыі ў нашай рэспубліцы, як, напрыклад, «Ватра» беларускіх украінцаў або беларускае аб'яднанне яўрэйскіх арганізацый і абшчын, карыстаюцца нацыянальнымі флагамі сваіх краін. А наогул у Рэспубліцы Беларусь дзейнічаюць больш за дзесяць арганізацый нацыянальных меншасцей.

**Флаг Беларускага народнага фронту «Адраджэнне».** Статут фронту быў прыняты на Устаноўчым з'ездзе 24—25 чэрвеня 1989 года ў г. Вільнюсе. Меркавалася выкарыстанне нацыянальнай гістарычнай сімволікі — герба «Пагоня» і бела-чырвона-белага флага. Прымяняліся і розныя флагі, і харугвы — з чырвоным крыжам на белым полі, з «Пагоняй», з гербамі гарадоў, чорныя харугвы са знакам радыяцыйнай небяспекі (у час акцый, якія былі звязаны з чарнобыльскімі падзеямі). Прыняцце ў верасні 1991 года дзяржаўным бела-чырвона-белага флага, якім карыстаўся Фронт, прымусіла БНФ «Адраджэнне» вырашаць пытанне стварэння сваёй сімволікі. У 1992 годзе рашэннем Сойма БНФ была створана Геральдычная камісія пры Камісіі Фронту па культуры і гісторыі пад кіраўніцтвам Уладзіміра Крукоўскага (аднаго з аўтараў дзяржаўнага герба) і пры актыўным удзеле графіка Яўгена Куліка. III з'езд БНФ 30 мая 1993 года зацвердзіў распрацаваныя імі эмблему і флаг Фронту (мал. 56). Флаг уяўляў сабой бела-чырвона-белае палотнішча (чырвоны колер мае цёмнае адценне) з адносінамі шырыні да даўжыні 1 : 2, якое мае тры касіцы даўжынёй у 1/4 даўжыні флага. На адлегласці ад дрэўка, якое роўна шырыні флага, намаляваны крыж з малой эмблемай БНФ — чырвоны роўнаполачны шасціканцовы крыж з белай аправай. Гарызантальныя перакладзіны крыжа супадаюць з межамі каляровых палос флага.



*Мал. 56. Флаг Беларускага Народнага Фронту "Адраджэнне"*

**Флаг Беларускай сялянскай партыі.** Першы флаг гэтай партыі быў прапанаваны Цэнтральнай Радай БСП у 1991 годзе і ўяўляў сабой бела-чырвона-белае палотнішча з залацістым коласам у цэнтры (мал. 57). Афіцыйна ён не рэгістраваўся. У 1993 годзе быў зменен яго малюнак. Новае палотнішча ўяўляе сабой Дзяржаўны флаг Беларусі, ля шкатрыны якога размешчаны зялёны роўнастаронні трохвугольнік з залатым коласам (мал. 58). Ён распрацаваны архітэктарамі Басавым А. Н. і Бураkоўскай Л. П. і выбраны кіраўніцтвам партыі з васьмі розных варыянтаў 25 чэрвеня 1993 года. Прыняты флаг 9 кастрычніка 1993 года на пасяджэнні Цэнтральнай Рады.



*Мал. 57. Флаг Беларускай сялянскай партыі. 1991—1993 гады*



*Мал. 58. Флаг Беларускай сялянскай партыі. 1993 год*

**Флаг Беларускага хрысціянска-дэмакратычнага саюза** (мал. 59) быў прыняты 1 чэрвеня 1991 года на Устаноўчай канферэнцыі Саюза. Узор флага быў прапанаваны Старшынёй БХДС Пятром Пятровічам Сілко як узор сімволікі БХДС. Ён сімвалізуе яднанне чатырох канфесій Беларусі і ўяўляе сабой белае прамавугольнае палотнішча з відарысам на ім з двух бакоў чырвонага крыжа. Адносіны шырыні флага да яго даўжыні 1 : 1,43. Адносіны шырыні перакладзіны крыжа да шырыні флага 1 : 5,75. Гарызантальная перакладзіна дзеліць палотнішча на верхнюю і ніжнюю часткі аднолькавага

размеру. Вертыкальная перакладзіна дзеліць палотнішча на меньшую левую и большую правую часткі як адносіны 1 : 2. Гэты флаг могуць мець зарэгістраваныя ў Праўленні БХДС пярвічныя і абласныя арганізацыі. Ён вывешваецца на будынках, дзе знаходзяцца абласныя праўленні БХДС, а таксама ў час абласных і рэспубліканскіх канферэнцый, афіцыйных цырымоній з аддзелам выканаўчых прадстаўнікоў БХДС, у час дэманстрацый і мітынгаў пры афіцыйным удзеле ў іх Саюза.



*Мал. 59.*
*Флаг Беларускага хрысціянска-дэмакратычнага саюза*

**Флаг Задзіночання беларускіх студэнтаў** (мал. 60) уяўляе сабой сімвал св. Юрыя. Яго палотнішча — чырвоны прамавугольны крыж на белым полі — рыцарскі сімвал. Святы Юрый быў не толькі заступнікам рыцарства, але лічыўся і заступнікам беларусаў. Флаг быццам сімвалізуе ідэю барацьбы за адраджэнне беларускай культуры. Выкарыстоўваўся з 1989 года, але афіцыйна зарэгістраваны толькі 27 мая 1992 года.



*Мал. 60. Флаг Задзіночання беларускіх студэнтаў*

**Флаг партыі Славянскі сабор "Белая Русь".** Гэта партыя выкарыстоўвае сімвал, які прымяняюць падобныя арганізацыі і ў іншых рэспубліках СНД — палотнішча з роўных гарызантальных палос: чорнай, жоўтай і белай (мал. 61) — сімвал манархістаў краін СНД. Афіцыйна абвешчаны флагам арганізацыі 11 снежня 1993 года. Адносіны шырыні палотнішча да яго даўжыні 2 : 3. Гэта нішто іншае,



*Мал. 61. Флаг партыі Славянскі сабор «Белая Русь»*

як «дзяржаўны флаг для ўрачыстых выпадкаў» Расійскай Імперыі, які існаваў у перыяд з 11 чэрвеня 1858 года па 7 мая 1883 года. Заснаваў яго імператар Аляксандр II. Але асноўная маса жыхароў Імперыі яго не прыняла. Аляксандр III адмяніў флаг, аставіўшы ў якасці дзяржаўнага бела-сіне-чырвонае палотнішча.

**Флаг Руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць (ДСПС)** мае чырвонае палотнішча. Адносіны шырыні да даўжыні 1 : 2. У верхнім вугле ля дрэўка палотнішча залатыя буквы «ДСПС». Флаг зацверджаны 21 лістапада 1992 года (мал. 62).




*Мал. 62. Флаг Руху за дэмакратыю, сацыяльны прагрэс і справядлівасць*

**Флаг Саюза афіцэраў Беларусі (САБ)** у сапраўднасці з'яўляецца сцягам, так як адлюстроўвае ўсю атрыбутыку сцяга. Гэта адбылося таму, што распрацоўшчыкі не ведалі законаў вексілалогіі. Ён распрацаваны Баранкевічам А. І., Калініным Г. Г., Зіміным Б. Г., Філімонцавым А. І. Сцяг зацверджаны і зарэгістраваны Саветам Саюза афіцэраў Беларусі 14 красавіка 1993 года, пратакол № 14. На праходзячым 18 верасня 1993 года з'ездзе САБ ён быў асвячоны свяшчэннікам. Сцяг уяўляе сабой «чырвонага колеру атласнае палотнішча 1,1x1,5 м на флагштоку. Па перыметру ён абшыты махрой залацістага колеру. На адным яго баку вышыты залацістага колеру ніткамі надпіс «Саюз Афіцэраў Беларусі», на другім — «За Айчыну, Гонар і Годнасць» і знак Саюза афіцэраў, які вышыты

ніткамі залацістага і сіняга колеру. На флагштоку маецца наканечнік з металу белага колеру і залацістага колеру два плеценыя шнуры з кутасамі на канцах» (мал. 63). Характэрна для сцяга размяшчэнне на адваротным баку палотнішча адначасова дэвіза арганізацыі і яе эмблемы.




*Мал. 63. Флаг Саюза афіцэраў Беларусі*

**Беларуская сацыял-дэмакратычная грамада** не мае свайго флага, а прымяняе дзяржаўны флаг з міждзяржаўнай эмблемай дэмакратычнага руху — рука сціскаючая ружу.

**Фэдэрацыя прафсаюзаў Беларусі** таксама не мае флага, а карыстаецца сваёй эмблемай.

Салігорскія шахцёры карыстаюцца флагам незалежнага прафсаюза гарнякоў (НПГ): блакітна-чорнае палотнішча з відарысам адбойнага малатка, змяі ў кароне і букваў «НПГ».

**Флаг Партыі працоўнага народа** (праект, мал. 64) уяўляе сабой палотнішча з трох роўных вертыкальных палос: зялёнай (сялянства), белай з




*Мал. 64. Праект флага партыі працоўнага народа*

відарысам кнігі, сярпа і молата (інтэлігенцыя), чырвонай (рабочыя).

Падводзячы вынікі кароткаму агляду сучасных флагаў нашай рэспублікі, хочацца адзначыць, што не ўсе прынялі бела-чырвона-белы флаг. Так, у першыя дні работы 13-ай сесіі Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь у фае перад Авальнай залай Дома урада былі вывешаны праекты флага і герба, а таксама пісьмы ветэранаў з патрабаваннем змяніць сімволіку, паколькі яна быццам бы дана нам немцамі ў 1918 годзе і фашыстамі ў 1942 годзе. 9 лістапада 1993 года ў дзень адкрыцця 13-ай сесіі Вярхоўнага Савета ад камісіі па справах ветэранаў і інвалідаў выступіў І. Е. Някрасаў з паведамленнем аб праекце новай сімволікі рэспублікі. Ён прапанаваў флаг з трох гарызантальных роўных палос: (зверху ўніз) чырвоная, зялёная, блакітная. На думку аўтараў праекта, гэтыя колеры адпавядаюць гістарычным колерам сцяга Мінскага ваяводства (чырвоны), Віцебскага (зялёны) і Брэсцкага (блакітны). Міжволі ўзнікае пытанне: як павінны аднесціся да падобнай трактоўкі колераў у Гродне, Гомелі, Магілёве? Акрамя таго, гэта палотнішча вельмі падобнае на прыняты ў лютым 1993 года дзяржаўны флаг Рэспублікі Карэлія, які адрозніваецца толькі зваротным размяшчэннем зялёнага і блакітнага колераў.

Мы заканчваем гэтую главу з упэўненасцю, што час будзе ўносіць у яе дапаўненні, выкарыстаць якія можна будзе толькі пры перавыданні кнігі.

# ЗАКЛЮЧЭННЕ

Хочацца спадзявацца, што прачытаўшы гэтую кнігу, вы атрымаеце некаторае ўяўленне аб тым, што ж гэта такое — вексілалогія, аб гісторыі ўзнікнення флага на тэрыторыі нашай Бацькаўшчыны. Аднак хто зацікавіцца паглыбленым вывучэннем вексілалогіі, мы раім прачытаць наступныя кнігі.


1. *Белавенец П. И.* Артиллерийский исторический музей. Знаменный отдел. Л.: 1927.

2. *Белавенец П. И.* Знамена восстаний и революций // Вестник знания. 1928. № 2, 4, 8, 12, 21, 22.

3. *Басов А. Н.* Флаг народа, а не царя // Моделист-конструктор. 1991. № 1.

4. *Басов А. Н.* Флаги Владычицы морей. Сб. Наваль, № 2.

5. *Иванов К. А.* Флаги государств мира. М.: Транспорт, 1971.

6. *Курасов М. Ю.* Геральдический альбом // Вокруг света. 1990. № 2, 4, 8, 10, 12; 1991. № 2, 4, 9, 11; 1992. № 2, 7, 10.

7. *Курков И. М.* Гербы и флаги // Пионер, 1984, № 1—5.

8. *Мамаев К. К.* Флаги рассказывают. Л.: Аврора, 1972.

9. *Семенович Н., Миланов В.* Символы флота // Наука и жизнь. 1988. № 2.

10. *Ткачев М.* Национальные символы: народ и история // Советская Белоруссия за 11 и 12 октября 1989 г.


Усе гэтыя кнігі маюцца ў Нацыянальнай і Акадэмічнай бібліятэках Рэспублікі Беларусь.

Цікавыя кнігі па вексілалогіі Карнакова П., Велінбахава Г. з Санкт-Пецярбурга і інш., але ў іх выкарыстан спецыфічны навуковы стыль ізлажэння матэрыялу і яны цяжка даступны шырокаму чытачу. Выдавецтвам "Полымя" выданы цікавыя кнігі А. К. Цітова па геральдыцы, якія асвятляюць пытанні гербаў гарадоў і гісторыі герба «Пагоня».

Мы звяртаемся да чытачоў паведамляць аб флагах, аб якіх не ўпамінаецца ў дадзенай кнізе па адрасу: *220050, г. Мінск, Пачтамт, да запатрабавання,* БАСАВУ АЛЯКСАНДРУ НІКАДЗІМАВІЧУ.

*Будзем вельмі ўдзячны!*

## ЗМЕСТ



Навукова-папулярнае выданне

**БАСАЎ** АЛЯКСАНДР НІКАДЗІМАВІЧ

**КУРКОЎ** ІВАН МІХАЙЛАВІЧ

ФЛАГІ БЕЛАРУСІ ЎЧОРА І СЁННЯ

Рэдактар *А. Н. Найдовіч*
Мастацкі рэдактар *І. А. Дзямкоўскі*
Тэхнічны рэдактар *Т. А. Тарасенка*
Карэктары *Г. В. Алешко, Л. К. Сямёнава*

Набор і вёрстка выкананы на камп'ютарнай тэхніцы выдавецтва "Полымя". Падпісана да друку з арыг.-макету 30.08.94. Фармат 60X90 1/8. Папера афсетная. Гарнітура часопісная рубленая. Афсетны друк. Ум. друк. арк 4,5. Ум. фарб.-адб. 20,0. Ум.-выд. арк. 4,51. Тыраж 8 000 экз. Выд. № 9120. Зак. 623

Выдавецтва "Полымя" Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзыя № 432.
220600, Мінск, пр. Машэрова, 11.

Мінская фабрыка каляровага друку. 222310, Мінск, Каржанеўская, 20

